НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 38 (779) 10 кастрычніка 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у се

## Запуск белмоўнага канала пераносіцца на зіму



На «Беларусь-3» будзе дакументалістыка, гістарычныя і мастацкія фільмы. Старонка 2.

## Віншуем настаўнікаў!



Чытачы «Нашай Нівы» пішуць пра найлепшых педагогаў. Старонка 9.

# Колькі могуць расці цэны?

У Беларусі **мяса** ўдвая **даражэйшае**, чым у Польшчы. **Старонка 5.**




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Тэндэнцыі

## Адкрыты ліст навукоўцаў у абарону звольненага дацэнта Чарнякевіча

70 дактароў і кандыдатаў навук выступілі з адкрытым лістом да міністра адукацыі Сяргея Маскевіча і **кіраўніцтва Гродзенскага ўніверсітэта**. Свае подпісы пад лістом далучылі некалькі сотняў чалавек.

У звароце патрабуецца аднаўленне на працы дацэнта, кандыдата гістарычных навук Андрэя Чарнякевіча, звольненага пасля выхаду кнігі «Гродназнаўства», напісанай з ягоным удзелам. Прыводзім ліст цалкам.

Адкрыты ліст
да міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь С. А. Маскевіча [у 1997—2005 быў рэктарам Гродзенскага ўніверсітэта — «НН»], да кіраўніцтва Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я.Купалы.

Навуковая супольнасць гісторыкаў як у Беларусі, так і за межамі краіны з непакоем успрыняла звальненне з працы па надуманых прычынах дацэнта ГрДУ вядомага гісторыка Андрэя Чарнякевіча.

**Працяг на старонцы 4.**

### Палітыка

**Як ствараецца псеўдаапазіцыя**

Палітычныя камбінатары з Цэнтрысцкай партыі. **Старонка 3.**



### Здарэнні

**Вецер сарваў дах з Сафійскага сабора**

Нядаўна крoквы рамантавалі. **Старонка 7.**



### Экстрым

**Падарожжа вакол Зямлі. Арменія**

Гара гару не сустракае, чалавек чалавека сустракае. **Старонкі 10—11.**



### Літаратура

**Казка пра Караля, які страшна любіў пісаць**

Падданыя мусілі вітацца рохканнем. **Старонка 13.**



# Запуск канала «Беларусь-3» пераносіцца на люты

Але ўжо вядома імя генеральнага дырэктара.

Запуск беларускамоўнага тэлеканала з восені пераносіцца на 2013 год. Як паведамілі «Нашай Ніве» ў прэс-службе Белтэлерадыёкампаніі, цяпер вырашаюцца пэўныя юрыдычныя аспекты, а таксама рыхтуецца кантэнт.

«У нас змясціліся тэрміны, бо мы сур'ёзна працуем, каб канал атрымаўся паўнавартасным, цікавым, каб яго з'яўленне стала прыемным сюрпрызам для ўсіх».

Меркаваны час з'яўлення канала — люты 2013 года. Пра гэта «НН» паведамілі ў прыёмнай канала «Беларусь-3».

Кіраўніком канала будзе цяперашні намеснік начальніка ўпраўлення электронных СМІ Міністэрства інфармацыі Віктар Маючы.

«Беларусь-3» плануецца як беларускамоўны тэлеканал, дзе будуць мастацкія і дакументальныя фільмы, дубляваныя на беларускую мову, ток-шоу культуралагічнага плана, рэлігійныя праграмы, праграмы для дзяцей.



Юрась Ускоў

## У Гродне звальняюць яшчэ аднаго выкладчыка

Прэтэнзіі да Ігара Кузьмініча даволі расплывістыя. Сярод іх: «напісаў **казку пра Пагоню**».

Стала вядомае імя яшчэ адной ахвяры «зачысткі нядобранадзейных» у Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы. Гэта беларускамоўны выкладчык Ігар Кузьмініч, які да верасня 2012 г. быў намеснікам дэкана юрыдычнага факультэта.

Кузьмініч — высакакласны спецыяліст. Ён таксама вядомы як актыўны чалавек: ад публікацый на спецыяльныя тэмы да беларускамоўных ялінак для дзяцей.

Як стала вядома ад супрацоўнікаў універсітэта, ад загадчыка Інавацыйнага цэнтра юрыдычнай адукацыі Ігара Кузьмініча вымагаюць напісаць заяву на звальненне па пагадненні бакоў. Прэтэнзіі да яго даволі расплывістыя, але сярод іх паказальна фігуруе напісанне ім дзіцячай казкі пра Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг. Кузьмініч змясціў іх у сваім блогу.

У кастрычніку 2010 г. некаторыя з казак Кузьмініча выйшлі аўдыёкнігай «Казкі жыцця Мікіткі і Данілкі».

Тэлефон самога выкладчыка пакуль знаходзіцца па-за зонай дзеяння сеткі.

Нагадаем, што ў верасні з універсітэта быў звольнены гісторык Андрэй Чарнякевіч, а з яшчэ некалькімі выкладчыкамі адбыліся «прафілактычныя размовы» з удзелам супрацоўнікаў спецслужбаў.

Алесь Кіркевіч, Гродна

**Фотафакт**



Першыя беларускія рублі — «зайчыкі» — прадаюцца ў ЦУМе як сувеніры. Цяпер гэта магніцікі па 6 500 рублёў за штуку.

## Караткевіч апярэдзіў Умберта Эка і Дэна Браўна




У Польшчы выйшаў раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Культавую кнігу пераклалі папольску. Зрабіла гэта Малгажата Бухалік, якая раней перастварыла «Рыбін горад» Наталкі Бабінай.

«Кніжка была напісаная ў сярэдзіне 1960-х. Гэта значыць, задоўга да «Кода да Вінчы», да «Імя ружы» Умберта Эка, — адзначаецца ў рэцэнзіі часопіса Przekroj. — Беларускі пісьменнік Уладзімір Караткевіч апярэдзіў іх усіх і памёр у 1984, не здолеўшы прабіцца да сусветнага літаратурнага працэсу, хоць гэтага цалкам заслугоўваў».

Рэцэнзентка адзначае, што кніга дагэтуль не губляе актуальнасці. «Аказваецца, некаторыя рэчы не змяніліся ад Сярэднявечча, яны папросту з'яўляюцца пазачасавымі: карупцыя ўлады, механізмы звязвалення і запалохвання, хцівасць, якая вядзе да крызісаў, вялікія ашуканствы, якія грунтуюцца на людской веры. Нязменнымі застаюцца і чалавечыя эмоцыі, пра якія Караткевіч піша ў сваім антыевангеллі так, што робіцца і страшна, і смешна».

СМ

**Рэкамендуем**

### Здаў ДАІ парушальніка — стукач ці санітар дарог?

Інспектары пачалі выкарыстоўваць відэа з рэгістратараў для пакарання парушальнікаў.

### Домрачава знялася ў джакузі — відэа

Біятланістка выклала ў нэт вясёлы ролік пра свой адпачынак.

### Tito & Tarantula ў клубе Dozari

Амерыканскі гурт, вядомы па фільмах Таранціна, выступіў у Мінску.

### Універсітэт Лазарскага выпусціў рэкламныя буклеты беларускай лацінкай

ВНУ зацікаўленая ў прыняцці на вучобу беларускай моладзі, тлумачаць ва ўніверсітэце.

### Ці атрымаецца правесці рэстаўрацыю вясковага бровара на $100 тысяч?

Інвестар гатовы, мясцовыя — не.

**Чытайце на nn.by**

**Сціасла**

**Лукашэнка: Па цане продажу беларускіх НПЗ мы пакуль не дамовіліся**

«Мы гатовы пакет акцый нейкі прадаць, а можа, цалкам завод, калі нам дадуць нармальную цану», — заявіў Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю тэлекампаніі «Мір».

**У п'яных будуць забіраць машыны**

Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з генпракурорам Аляксандрам Канюком даручыў адпрацаваць пытанне аб узмацненні адказнасці нецвярозых кіроўцаў. «Абмяркоўваюцца розныя захады, у тым ліку канфіскацыя транспартных сродкаў», — паведамілі ў ягонай прэс-службе.

**«Платформу» зліквідавалі**

Гэта была арганізацыя, створаная былымі вязнямі для абароны вязняў. Ліквідацыі прасіла падатковая інспекцыя. Маўляў, быў парушаны тэрмін падачы дэкларацыі.

СГ; БелаПАН

**Шукаюць сведкаў**

**Маці ў коме, 6-гадовая дзяўчынка з пераломам**

20 верасня каля 19.45 у Віцебску на вуліцы Цітова (прыпынак грамадскага транспарту «19-я Гарадоцкая») збілі маму з дачкой. Жанчына ляжыць без прытомнасці, у 6-гадовай дзяўчынкі — пераломам ключыцы.

Па словах сваячкі сям'і, Хрысціны, маці з дачкой пераходзіла дарогу на пешаходным пераходзе. Там іх і збіў бусік.

Хрысціна сказала, што крымінальную справу пакуль не завялі. З боку кіроўцы з'явіўся сведка, які заявіў, што маці з дачкой перабягалі дарогу ў недазволеным месцы. Сваякі пацярпелых заяўляюць, што гэта не так. І шукаюць яшчэ сведкаў трагедыі.

Калі вы нешта ведаеце пра дадзенае здарэнне, сваякі просяць звязацца па нумары 029-790-42-15 (Хрысціна).

КМ

**У курсе**

**Даляр ужо 8 630, еўра 11 170**

Курс даляра ў аўторак вырас на 60 рублёў да 8630 рублёў. Еўра вырас на Br60 да 11 170 рублёў.

**Самае чытанае за 3—9 кастрычніка на nn.by**

1. БАТЭ зняў скальп з «Баварыі» — 3:1. Такога яшчэ не было!
2. Цэны на свежае мяса ў Польшчы. Я ў шоку
3. Адкрыты ліст вялікай групы гісторыкаў у абарону дацэнта Чарнякевіча
4. «Гэта чырвона-белая краіна»
5. Выкладчыка Гродзенскага ўніверсітэта звальняюць за казку пра Пагоню
6. Скандал у Страсбургу: Афіцыйнага прадстаўніка Беларусі выгналі з залы
7. Спецмогілкі для псіхічна хворых пацыентаў — фотарэпартаж
8. Лукашэнка пра Колю: Характар не падарунак, раўнуе да старэйшых братоў
9. «Советская Белоруссия»: У ЗША «цэны на прадукты і бензін выраслі ўдвая»
10. Домрачава знялася ў джакузі

# Як палітычныя камбінатары ствараюць псеўдаапазіцыю

У сярэдзіне жніўня на інфармацыйных стужках прайшла навіна, што ў краіне ўзнікае Цэнтрысцкая партыя. Нават з'езд прызначылі на 23 снежня. На чале партыі мае стаць былы лідар сацыял-дэмакратаў Анатоль Ляўковіч.

«Выбары ў палату прадстаўнікоў не зменяць сітуацыю ў краіне. Сапраўдных палітычных страсцей і палітычнай барацьбы няма, — гаварылася ў заяве арганізатараў новай партыі. — Па адзін бок барыкад «забранзавелы» рэжым, па іншы блазенства і пазёрства. Палітычнае жыццё ў краіне зведзена да пляскання на плошчах і напісання нікому не патрэбных лозунгаў». Напрыканцы звароту адзначалася, што час псеўдаапазіцыі (не ўлады) мінуў.

«Советская Белоруссия» надрукавала кампліментарны артыкул пра Цэнтрысцкую партыю пад загалоўкам «У чаканні страсці». «Людзі Ляўковіча (а хутчэй за ўсё — ён сам аўтар гэтага баявога маніфеста) абсалютна правільна ахарактарызавалі палітычную апазіцыю, іх блазенства і пазёрства, а таксама дакладна прымецілі наконт разбазаранага ліміту даверу, які, можа быць, калісьці і быў у апазіцыі, але даўным-даўно сышоў у топанне і хлопанне», — адзначае аўтар матэрыялу.

У Рэдакцыю звярнуўся даўні чытач «НН» Генадзь Самусевіч (на форуме nn.by ён мае нік Дзімыч), які меў непасрэднае дачыненне да «стварэння» Цэнтрысцкай партыі. « Гэта чыстая авантура», — адразу кажа Генадзь.

Напачатку ён расказвае перадгісторыю. «Дзесьці два гады таму на мяне праз інтэрнэт выйшаў адзін хлопец. Былы актывіст апазіцыі, жыве ў Пінску. Сказаў, што раней займаўся грамадскай дзейнасцю, усталяваннем адносін «Беларусь — НАТА», прапанаваў разам папрацаваць. Хлопца завуць Вадзім Макееў».

Самусевіч кажа, што нічога з гэтай задумы не выйшла, але Макееў пазнаёміў яго са сваімі сябрамі. Сярод якіх быў журналіст Зміцер Кісель.

«Аднойчы яны мне сказалі: «У прынцыпе, у нас апазіцыя гнілая. А ці можна знайсці нейкую нішу, каб стварыць сваю партыю?» Кажу, што магчыма. Ну дык мы паспрабуем, кажуць яны мне. Макееў і Кісель нараджалі-нараджалі ідэі і нічога не радзілі. Звярнуліся зноў да мяне. Я прапанаваў канцэпцыю Цэнтрысцкай партыі. Але гэта толькі канцэпцыя! Яшчэ чакаў вялікі кавалак працы, патрэбныя сродкі і людзі».

У жніўні Самусевіч прачытаў з паведамленняў у інтэрнэце, што ствараецца Цэнтрысцкая партыя. «Макееў сказаў, што яны ўжо аб усім дамовіліся. Першым іхнім крокам павінна было стаць дасыланне Ярмошынай па пошце 10 слоікаў баршчу. Потым яны дамовіліся з Ляўковічам, што атакуюць Калякіна. Я кажу: а Калякіна за што? Адказваюць, што ў Ляўковіча засталася крыўда на Калякіна».

«Самае цікавае, што яны мне сказалі: «На наступных прэзідэнцкіх выбарах мы вылучаем Ляўковіча». Пасля гэтага я стаў капаць, хто гэтыя хлопцы. Апынулася, што тут, як у «Залатым цяляці»: «Да 16:00 вы за савецкую ўладу, а пасля 16:00 — супраць». Я гляджу, што Макееў і Кісель гнябяць у інтэрнэце гэтую апазіцыю, а самі ствараюць апазіцыйную партыю», — кажа Генадзь Самусевіч.



УЛАДЗЬ ГРЫДЗІН

**Анатоль Ляўковіч — буйны палітычны дзеяч.**

«Гэта самі людзі выступілі з такой ініцыятывай, каб вылучыць мяне ў прэзідэнты, — кажа Анатоль Ляўковіч. — Я чалавек адкрыты, гатовы да розных прапаноў. Сапраўды, меў нейкую падобную размову са Зміцером Кісялём. Ці ведаю я Макеева? Я многіх ведаю».

Ляўковіч праславіўся найбольш сваімі даўжэзнымі артыкуламі ў прэзідэнцкай «Советской Белоруссии» пра неабходнасць «канструктыўнай апазіцыі» з завярэннямі ў прызнанні заслуг Аляксандра Лукашэнкі. У другі раз Ляўковіч трапіўся на лісце да лідара «Справядлівай Расіі» Сяргея Міронава, дзе выступаў большым інтэгратарам за Лукашэнку і прапаноўваў стварыць грамадскую палату саюзнай дзяржавы.

Сам Вадзім Макееў адмаўляе свой удзел у стварэнні Цэнтрысцкай партыі. «Я не маю ніякага дачынення», — кажа ён, палохаючы, што падасць у суд за любую згадку яго імя.

Цікава, што асобы Макеева і Кісяля добра вядомыя ў асяроддзі брэсцкіх дэмакратычных актывістаў. Напрыклад, сябар Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк ужо не першы год спрабуе прыцягнуць да адказнасці Змітра Кісяля за абразы ў інтэрнэце. Пракуратура падтрымала Турчаняка, але міліцыя адмовілася нават апытаць Кісяля. Так ужо паўтаралася чатыры разы.

13 верасня на сайце «Віртуальны Брэст» з'явілася інфармацыя, што грамадская арганізацыя «Украінскі дом» звярталася да ЛДП і асабіста да сп.Гайдукевіча з прапановай аб супрацоўніцтве. Цікава, што сярод заснавальнікаў «Украінскага дома»... таксама Макееў і Кісель. «Партыі няма, а яны ўжо шукаюць партнёраў», — кажа Самусевіч.

Яшчэ адной партнёрскай арганізацыяй Цэнтрысцкай партыі становіцца нейкі «Левы фронт», што нібыта быў створаны ў Пінску. На чале арганізацыі стаў рабочы «Пінскдрэва» Кудранок. У інтэрв'ю ён сказаў, што арганізацыя за сацыялізм і бачыць у саюзніках Цэнтрысцкую партыю. Інтэрв'ю ў Кудранка браў Зміцер Кісель.

«У Беларусі і так да чарта псеўдаапазіцыйных арганізацый. Я б не хацеў, каб з'явілася яшчэ адна, якая б біла сябе ў грудзі, а потым пайшла на прэзідэнцкія выбары. Я не хачу ўдзельнічаць у такіх сумнеўных праектах», — сканчвае Генадзь Самусевіч.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**




BRATON-BX.LIVEJOURNAL.COM

**Пасля выставы на «Ружанскай браме» да народнага майстра Тарасюка прыязджаў КДБ**

«Тэлефануе дачка: «Што ты там шуму нарабіў у Ружанах?» Што ведаў, тое і рабіў, язык трымаў. НГБ мне тэлефануе з Мінска: «Вы ў Ружанах былі?» — «Быў», — кажу. — «Якія працы вазілі?» — «Якія былі, такія і вазіў». — «А што за працы?» — «Во такую, такую, такую... Лукашэнку, як ён на каньках катаецца. Зямля зарасла быльнягом, а канькі даражэйшыя за зямлю сталі. Плуг прамяняў на мячык і на канькі. І яшчэ парламент: як Лукашэнка кажа, а яго задам слухаюць. Вось такія працы я і вазіў. Узялі яны таго чалавека, што вазіў мае працы... І прыязджае да мяне з Брэста НГБ. Я ўжо 80 гадоў дажываю. І я такіх прэзідэнтаў ужо 20 штук перажыў. І ні адзін руку не вядзе на мужыкову долю, а ўсё на чыноўства. І гэты доўга не будзе, кажу. А я стаю за мужыка і буду стаяць за мужыка, хоць павесьце мяне проста цяпер», — кажа Мікалай Тарасюк.

Мікалай Тарасюк з'яўляецца лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, а таксама спецыяльнай прэміі прэзідэнта дзеячам культуры і мастацтва «За духоўнае адраджэнне» ў намінацыі «Народная творчасць». Акрамя таго, у сваім доме ён стварыў унікальны музей «Успаміны Бацькаўшчыны», аналагаў якому няма ў Беларусі.

**«Брэсцкая газета»**

## Беларускага дыпламата ў Страсбургу выгналі з залы

4 кастрычніка ў Страсбургу (Францыя) прайшло адкрытае пасяджэнне камітэта ПАРЕ па палітычных пытаннях. Сярод іншага абмяркоўвалася і беларускае пытанне.

Стала вядома, што спецыяльная рэзалюцыя Парламенцкай асамблеі Рады Еўропы па сітуацыі ў Беларусі будзе падрыхтавана да студзеня. Пра гэта заявіў спецдакладчык па Беларусі, эстонскі дэпутат Андрэс Херкель.

Падчас дэбатаў здарыўся таксама адзін эпізод з налётам скандальнасці. На пасяджэнні хацеў прысутнічаць першы сакратар прадстаўніцтва Беларусі пры Радзе Еўропы Алег Голубеў, але яго папрасілі пакінуць залу.

«Выглядае, што прадстаўнік Беларусі проста забыўся зарэгістравацца, — кажа прысутны на сустрэчы старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта Алег Гулак. — Таму адбылося парушэнне працэдуры. Плюс да ўсяго гэтага патлумачылі мэтамі бяспекі для людзей з Беларусі, што знаходзіліся ў зале».

Прычым Голубева папрасілі выйсці не ціха, кулуарна, а публічна. «Мне здаецца, што дарма так зрабілі. Цяпер нарэшце ёсць нейкае разуменне, што эскалацыя канфлікту паміж нашай краінай і ЕС нікому не патрэбная».

Беларускі МЗС пакуль ніяк не пракаментаваў інцыдэнт з дыпламатам.

**ЗП**

**Сцісла**

**Пасол Эрыксан загаварыў**

2 кастрычніка ён выступаў на стакгольмскім форуме «Народ і абарона». «Апазіцыя не можа існаваць і займацца палітычнай дзейнасцю ва ўмовах такога аўтарытарнага рэжыму, як у Беларусі. Такія палітыкі павінны называцца дысідэнтамі, якімі яны і з'яўляюцца на самай справе», — сказаў дыпламат.

**Чавэс пераабраны**

За яго на прэзідэнцкіх выбарах у Венесуэле прагаласавалі 54%, кандыдат ад апазіцыі Каприлес набраў 45%. У размове з Лукашэнкам Чавэс сказаў, што прысвячае сваю перамогу беларускаму народу.

**Лукашэнка ўзнагародзіў Андрэйчанку**

Ордэны і медалі атрымалі шэраг дэпутатаў палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу IV склікання, сярод іх і спікер Уладзімір Андрэйчанка.

**Пуціну — 60**

7 кастрычніка прэзідэнт Расіі дасягнуў пенсійнага веку. У Маскве прайшла акцыя апазіцыі «Дзядуля, сыходзь на пенсію», але яна не была шматлікай.

**ЗП**

# Адкрыты ліст навукоўцаў у абарону звольненага дацэнта Чарнякевіча



**Працяг са старонкі 1.**

Абставіны звальнення сведчаць, што сапраўднай яго прычынай стала не парушэнне працоўнай дысцыпліны (два спазненні на лекцыю і замена з калегай па дазволе кіраўніка), а ўдзел А. Чарнякевіча ў напісанні кнігі «Гродназнаўства».

У найгоршых традыцыях камуністычнага таталітарызму некаторыя службовыя асобы праявілі недарэчную «ідэалагічную пільнасць» адносна працы, якая прайшла прафесійнае рэцэнзаванне, двойчы друкавалася ўніверсітэцкім выдавецтвам і рэкамендавана да ўжывання ў гарадзенскіх школах на факультатыўнай аснове.

У прыватнасці, раздражненне чыноўнікаў выклікала змяшчэнне ў кнізе гістарычных і дзяржаўных сімвалаў Беларусі — герба «Пагоні» і бел-чырвона-белага сцяга.

Сп. Андрэй Чарнякевіч — прафесійны гісторык, які стварае свае працы, кіруючыся навуковым сумленнем, а не ідэалагічнымі інструкцыямі чарговай улады.

Ягонае звальненне мы ўспрымаем як пераслед за навуковую добрасумленнасць, як забарону на прафесію. Трэба адзначыць, што гэта далёка не першы падобны выпадак у найноўшай гісторыі Беларусі. Для некаторых чыноўнікаў становіцца нормай практыка выгнання з працы прадстаўнікоў гуманітарных навук, якія імкнуцца прафесійна выконваць свае абавязкі.

Чакаем ад кіраўніцтва ўніверсітэта і Міністэрства адукацыі аднаўлення на пасадзе кваліфікаванага спецыяліста-выкладчыка, які за 11 гадоў працы не меў ніводнага спагнання. Нагадваем, што апошнюю ацэнку як прарэктару С. У. Агіявец, так і рэктару Я. А. Роўбу, міністру С. А. Маскевічу ды іншым датычным да справы асобам будзем ставіць мы, гісторыкі.

**Аляксандр Краўцэвіч** (Гродна), доктар гістарычных навук.
**Алесь Смалянчук** (Гродна), доктар гістарычных навук.
**Яўген Мірановіч** (Беласток), доктар габілітаваны.
**Генадзь Сагановіч** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Аляксандр Радзюк** (Гродна), кандыдат гістарычных навук.
**Юрый Гардзееў** (Кракаў), доктар габілітаваны.
**Ліля Коўкель** (Кракаў), PhD.
**Ежы Мілеўскі** (Беласток), PhD.
**Здэнек Драгун** (Прага), PhD.
**Івана Багачова** (Прага), PhD.
**Мечыслаў Яцкевіч** (Ольштын), доктар габілітаваны.
**Алег Латышонак** (Беласток), доктар габілітаваны.
**Уладзімір Ляхоўскі** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Ігар Кузняцоў** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Яраслаў Іванюк** (Беласток), магістр.
**Анатоль Вялікі** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Ірына Кашталян** (Мінск), PhD.
**Вольга Шаталава** (Мінск), PhD.
**Аляксандр Фядута** (Мінск), кандыдат філалагічных навук.
**Захар Шыбека** (Хайфа), доктар гістарычных навук.
**Алесь Пашкевіч** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Пётра Рудкоўскі** (Канвелішкі Воранаўскага раёна — Варшава), дактарант Варшаўскага ўніверсітэта.
**Ганна Энгелькінг** (Варшава), PhD.
**Сяргей Харэўскі** (Мінск), магістр мастацтвазнаўства.
**Ірына Дубянецкая** (Мінск), PhD.
**Ганна Паўлоўская** (Варшава), кандыдат гістарычных навук.
**Юры Бачышча** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Алесь Белы** (Мінск), PhD.
**Ірына Лаўроўская** (Брэст), PhD.
**Андрэй Кіштымаў** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Дарота Міхалюк** (Торунь), доктар габілітаваны.
**Міхаіл Карневіч** (Гродна), журналіст.
**Ларыса Міхайлік** (Гродна), PhD.
**Эла Сабаленка** (Мінск), кандыдат гістарычных навук.
**Лявон Баршчэўскі** (Мінск), кандыдат філалагічных навук, літаратар, педагог.
**Андрэй Янушкевіч**, кандыдат гістарычных навук, дацэнт.
**Пётра Пашкевіч** (Францыя), доктар тэхнічных навук.
**Алена Гапава**, дацэнт, кафедра сацыялогіі, Western Michigan University.
**Анатоль Івашчанка**, кандыдат філалагічных навук.
**Андрэй Катлярчук**, доктар гістарычных навук, выкладчык Стакгольмскага ўніверсітэта.
**Наталля Гардзіенка**, кандыдат гістарычных навук.
**Ігар Кузьмініч**, старшы выкладчык кафедры тэорыі дзяржавы і права юрыдычнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.
**Уладзімір Васілевіч**, кандыдат філалагічных навук.
**Андрэй Лаўрухін**, дацэнт дэпартамента Сацыяльных і палітычных навук ЕГУ.
**Эдуард Дубянецкі**, Мінск, кандыдат гістарычных навук.
**Віктар Марціновіч**, Вільня, PhD.
**Ігар Сташкевіч**, дацэнт БДУ, фізік.
**Алесь Арцюховіч**, PhD.
**Станіслаў Дубянецкі**, Мінск, кандыдат філасофскіх навук.
**Генадзь Семянчук**, дацэнт кафедры археалогіі і этналогіі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.
**Уладзімір Садоўскі**, кандыдат сацыяльных навук, Люблін.
**Юлія Юркавец**, выкладчык кафедры археалогіі і этналогіі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы.
**Юлія Мазуркевіч-Сулкоўска**, доктар гуманітарных навук (Лодзь).
**Уладзімер Лобач**, кандыдат гістарычных навук (Полацк).
**Іна Соркіна**, канд. гіст. навук, дацэнт (ГрДУ імя Я.Купалы).
**Алесь Анціпенка**, культуролаг, кандыдат філасофскіх навук.
**Мікола Хаўстовіч**, доктар філалагічных навук, гісторык беларускай літаратуры.
**Ян Шумскі** (Варшава), PhD.
**Аляксей Махнач** (Вільня), кандыдат гістарычных навук.
**Надзея Шакун**, кандыдат філалагічных навук, выкладчык БДЭУ, выпускніца ГрДУ.
**Янка Трацяк**, кандыдат культуралогіі.
**Тадэвуш Гавін**, PhD, Гродна.
**Ніна Стужынская**, кандыдат гістарычных навук.
**Ала Захарэвіч**, выкладчык кафедры сацыяльна-гуманітарных дысцыплін ПДУ (Наваполацк).
**Вольга Раманава** (Мінск), кандыдат філалагічных навук.
**Аляксей Ластоўскі**, кандыдат сацыялагічных навук.
**Віктар Жыбуль**, кандыдат філалагічных навук.
**Яўген Бараньшын**, кандыдат фізіка-матэматычных навук, Мінск.
**Таццяна Капітонава**, кандыдат філасофскіх навук, Мінск.
**Тарэса Глушакова**, дацэнт культуралогіі, кандыдат філасофскіх навук.
**Юрась Бабіч**, кандыдат філалагічных навук.
**Сяргей Кандрычын**, PhD, Мінск.
**Адам Шпакоўскі**, біяфізік, кандыдат фізічна-матэматычных навук, Мінск.
**Таццяна Валодзіна**, доктар філалагічных навук.
**Таццяна Луцэвіч** (Мінск), кандыдат гістарычных навук
**Пётра Мурзёнак** (Атава, Канада), доктар медычных навук.
**Валеры Мазынскі** (Мінск) — рэжысёр, засл. дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.
**Наталка Бабіна** (Мінскі раён), пісьменніца.
**Андрэй Дынько**, шэф-рэдактар «Нашай Нівы».
**Алесь Герасіменка** (Мінск), загадчык сектарам эканамічнай палітыкі «Экономической газеты».
**Маргарыта Тарайкевіч** (Мінск), магістр сацыяльна-педагагічных навук.
**Андрэй Сірацінін** (Брэст), студэнт 4-га курса гістфака БрДУ.
**Зміцер Каспяровіч** (Мінск), музейная справа, ахова помнікаў гісторыі і культуры (БДУКіМ).
**Васіль Аўраменка** (Магілёў), лекар-неўролаг, аматар гісторыі.
**Андрэй Аляхновіч**, краязнавец.
**Юрась Ускоў** (Мінск), журналіст.
**Сяргей Супрановіч** (Вілейка).
**Алег Гардзіенка** (Мінск), вэб-рэдактар сайта «Наша Ніва», гісторык.
**Віктар Галоўчыц** (Магілёў).
**Святлана Калінкіна** (Мінск), шэф-рэдактар «Народнай волі».
**Віктар Малышчыц** (Мінск), старшы выкладчык БДУ.
**Вадзім Сугойдзь** (Мінск), сталяр, у былым жыцці гісторык.
**Юля Дарашкевіч** (Мінск), журналіст, студэнтка гарадзенскага гістфака (1998—2003).
**Алесь Пілецкі** (Мінск), журналіст, магістр гісторыі Беларусі, у 2001–2006 гадах студэнт гістарычнага факультэта Гродзенскага ўніверсітэта.
**Дзмітрый Кухлей** (Масты), магістр палітычных навук, магістр міжнароднай эканомікі.
**Арцём Ткачук** (Ліда), студэнт гістфака ГрДУ 2007–2010.
**Ігар Панфілаў**, праграміст, SCJP/SCWCD/DB2A (JNB, R.S.A.).
**Валер Кісель** (Гродна), інжынер-канструктар.
**Зянон Пазняк**, археолаг, мастацтвазнавец, старшыня КХП-БНФ.
**Уладзімір Някляеў** (Мінск).
**Яўген Бойка** (Познань), бакалаўр гістарычных навук.
**Павел Котаў**, магістр гістарычных навук, дактарант Карлавага ўніверсітэта ў Празе.
**Таццяна Чуліцкая** (Вільня), магістр палітычных навук, Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (Літва).
**Алесь Шадрын**, Мінск.
**Алесь Зарамбюк**, дырэктар Беларускага Дома ў Варшаве.
**Міхась Янчук**, журналіст.
**Таццяна Касатая** (Гродна), магістр гістарычных навук.
**Сямён Печанко**, журналіст.
**Аліна Коўшык** (Гродна), журналістка, выпускніца Гарадзенскага гістарычнага факультэта.
**Міхась Злоцкі**, прадпрымальнік.
**Глеб Лабадзенка**, журналіст.
**Уладзімер Агапончык** (Полацк), выкладчык.
**Зміцер Юрцэвіч**, інжынер-праграміст, Наваполацк.
**Аляксей Дзікавіцкі**, кіраўнік Рэдакцыі інфармацыйных праграм тэлебачання «Белсат».
**Уладзіслаў Вялічка**, старшыня Міжнароднага кансорцыума «ЕўраБеларусь».
**Уладзімір Шыла**, Салігорск.
**Святлана Шыла**, Салігорск.
**Францішак Корзун** (Мінск), магістр сацыялогіі.
**Аксана Рудовіч**, «Наша Ніва», журналістка.
**Васіль Савіч**, Гродна.
**Яўген Касцюкевіч**, юрыст.
**Святлана Сендзер**, магістр культуразнаўства Варшаўскага ўніверсітэта, выпускніца аспірантуры гістфака БДУ.
**Анатоль Сідарэвіч**, гісторык.
**Віталь Быль**, выпускнік гістфака БДУ, навуковы супрацоўнік, краязнавец.
**Кастусь Шыталь** (Глыбокае), журналіст, краязнаўца.
**Андрэй Вышадок**, Лондан.
**Святлана Грэгары**, BSc, RIPHH, tutor (GB).
**Яўген Янчук** (Гайнаўка), магістр гісторыі.
**Зміцер Ягораў**, журналіст.
**Сяргей Ваганаў**, журналіст.
**Вольга Смалянчук**, бакалаўр гістарычных і філасофскіх навук (Гродна — Прага).
**Максім Чарняўскі**, Варшава — Мінск, журналіст.
**Вадзім Шышко**, навуковы супрацоўнік Пастаўскага раённага краязнаўчага музея.
**Дзмітры Вінчэўскі**, Гродна.
**Аляксей Шэін**, філолаг, журналіст.
**Аляксей Лявончык**, перакладчык.
**Аляксандр Дзікевіч** (Гродна), гісторык, супрацоўнік турыстычнай сферы.
**Руслан Равяка**, журналіст, краязнавец (Баранавічы).
**Аляксей Дварэцкі** (Мінск), студэнт, будучы інжынер-праграміст.
**Сяргей Русецкі**, гісторык-этнолаг.
**Андрэй Суднік**, інжынер-тэхнолаг.
**Алена Васілевіч**, пісьменніца.
**Аляксандр Сяргей**, выпускнік гістфака ПДУ, навуковы супрацоўнік.
**Уладзіслаў Гурыновіч**, студэнт 4-га курса бакалаўрскай праграмы «Культурная спадчына і турызм» ЕГУ, Вільня.
**Максім Купрэеў**, Berlin, PhD student in Egyptology, Freie Universität Berlin.
**Лізавета Касмач**, магістр гісторыі, дактарантка University of Alberta (Canada).
**Андрэй Расінскі** (Мінск), культуролаг.
**Аляксандр Пагарэлы**, магістр гуманітарных навук (БДУ).
**Зміцер Станкевіч**, капітан дальняга плавання.
**Наталія Доўнар**, Ашмяны.
**Ірэна Падбярэская**, архітэктар, Мінск.
**Мікіта Тарасаў**, Мінск, вэб-распрацоўшчык.
**Зміцер Сухалет**, студэнт гарадзенскага «гістфака» (2004—2009).
**Дзмітры Кіенко**, студэнт гістфаку ГрДзУ (2001–2006), магістр гісторыі, супрацоунік МУС (2010–2012).
**Андрэй Колас**, гісторык, выкладчык. Ваўкавыск.
**Павел Кірылаў**, Мінск.
**Ірына Хурматава**.
**Антон Барысенка**, студэнт.
**Валянціна Чыжэўская**, Германія.
**Алена Талапіла**, магістр філасофіі.
**Віталь Бабін**, журналіст.
**Антаніна Якімовіч**, інжынер, Мінск.
**Усевалад Шлыкаў**, журналіст.
**Яўген Федаровіч**, юрыст.
**Наталля Макушына**, журналіст.
**Васіль Лепеш**, журналіст, выпускнік гістфака БДПУ.
**Віталь Матусевіч**, Жодзіна.
**Марта Шматава**, мастак (Мінск).
**кс. Віктар Місевіч**, магістр тэалогіі.
**Кацярына Сюркова**, магістр гістарычных навук.
**Наталля Ільініч**, настаўніца гісторыі, краязнаўца.
Аліна Раматоўская, магістр філалагічных навук (ГрДУ імя Янкі Купалы), Гродна.
**Ганна Шарэнда** (Гродна), магістр педагагічных навук.
Зміцер Панкавец, намеснік галоўнага рэдактара «Нашай Нівы».
**Аляксандр Майсак**, пенсіянер, БНФ.
**Зміцер Крымоўскі**, грамадзянін.
**Вольга Андрэева**, псіхолаг.
**Вітаўт Кіпель** (Нью-Джэрсі, ЗША), дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва (ЗША), даследчык беларускай эміграцыі.
**Лявон Юрэвіч** (Нью-Ёрк), літаратуразнаўца, даследчык беларускай эміграцыі.
**Надзея Машкарова**.
**Мікалай Белановіч**, музыка.
**Лявон Вольскі**, музыка.
**Аляксей Руды**, аўдытар.
**Анатоль Макушын**, Гродна.
**Сцяпан Стурэйка**, магістр гісторыі, культурны антраполаг.
**Валера Руселік**, журналіст.
**Ігар Случак**, аўтар ідэі ініцыятывы «Справаводства па-беларуску!».
**Марына Сахабудзінава**.
**Наталля Сахабудзінава**.
**Максім Фралоў** (Мінск), інжынер.
**Аляксандр Сцепаненка**, грамадзкі актывіст.
**Ігар Лялькоў**, гісторык, намесьнік старшыні Партыі БНФ.
**Ірына Віданава**, гісторык.
**Раман Ерашэвіч**, студэнт гістфака (2000-2005) МДУ імя А.Куляшова, прэс-сакратар Беларускага незалежнага прафсаюза.
**Андрэй Барышнікаў**.
**Рыта Бабкіна** (Мінск).
**Дзмітры Гурневіч**, журналіст (Варшава).
**Ала Мянько**, эканаміст.
**П. Самсонаў** (Мінск), выкладчык.
**Андрэй Лянкевіч**, фатограф.
**Антон Красноў**, Мінск.
**Сяргей Бежалеў**, гісторык, псіхолаг.
**Юрась Чаранкоў**, рабочы.
**Максім Капран** (Мінск), архітэктар.
**Алесь Давыдоўскі**, Мінск.
**Ілля Сін**, літаратар.
**Наталля Паўловіч**, дактарантка Польскай Акадэміі навук.
**Сяргей Скулавец**, журналіст.
**Вадзім Баршчэўскі**, журналіст (Віцебск).
**Сяргей Антусевіч**, намеснік старшыні Беларускага Кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў.
**Віталь Барташ**, PhD, студэнт, мовы старажытнага Усходу, універсітэт Франкфурт-на-Майне.
**Алена Крушальніцкая**, праграміст, былая студэнтка Андрэя Чарнякевіча (Прага).
**Надзея Каладзінская**, Мінск, выпускніца фізфака ГрДУ 1990.
**Андрэй Юшкевіч**.
**Уладзімір Меркулаў**, прадпрымальнік, Жодзіна.
**Яўген Якавенка**, старшыня Гомельскай абласной арганізацыі ТБМ.
**Алена Казлова**, часопіс ARCHE.
**Кацярына Мерэні**.
**Таццяна Міхайлоўская**, старшыня МГА «Гісторыка».
**Вадзім Мартыненка**, бізнесмен, уладальнік фірмы.
**Аляксандр Лібер**, заснавальнік незалежнай даследчай ініцыятывы Day Research Belarus.
**Андрэй Вашкевіч** (Гродна), гісторык.
**Аляксандра Малей**, магістр мастацтвазнаўства.
**Ларыса Кузняцова**, тэхнік-тэхнолаг.
**Святлана Касцюкевіч**, лабарант ПДУ.
**Дзмітрый Сцяпанаў**, моушндызайнер, Віцебск.
**Алесь Кіркевіч**, намеснік старшыні МФ, гарадзенец.
**Алесь Баразенка**, журналіст.
**Юры Габрусь**, музыкант.
**Віктар Скок**, эканаміст, Баранавічы.
**Яўген Бабіч** (Глыбокае).
**Анджэй Пісальнік** (Гродна), журналіст.
**Юрый Кутузаў**, Смаргонь, БНФ.
**Нэла Знак**, настаўніца гісторыі.
**Алег Сенкель**, вадзіцель.
**Алег Рамашкевіч**, Вялікая Бераставіца.
**Хрысціна Клябанава**, заснавальнік «Незалежнага кінаклуба», Віцебск.
**Васіль Сёмуха**, перакладчык.
**Сяргей Егарэйчанка**, сябра Саюза беларускіх Пісьменнікаў, Нясвіж.
**Зміцер Юркевіч**, мастак.
**Віталь Прэдка** (Ваўкавыск), краязнавец.
**Валерый Віцько**, Стоўбцы.
**Мікалай Пачкаеў** (Вялікабрытанія), вып. ФМА БДУ, M.A., M.Phil. (Кембрыдж).
**Сяргей Скрыпнічэнка**, мастак.
**Святлана Красікава**, дызайнер. Мінск.
**Ігар Сандрыгайла**.
**Радзівон Сувораў**, настаўнік гісторыі гімназіі № 29 г. Мінска.
**Сняжана Рогач**, магістр гісторыі (ЕГУ), выпускніца аспірантуры гістфака БДУ, Мінск.
**Аляксандр Быстрык**, бакалаўр гісторыі Беларусі, магістрант студыяў нацыяналізму.
**Аляксандр Грахоцкі** (Гомель), магістр гістарычных навук.
**Дзмітрый Люцік** (Гродна), гісторык.
**Зміцер Акудовіч**.
**Таццяна Казак**, Гродна, магістр гісторыі, студэнтка ГрДУ (2001—2006).
**Ірына Філатава** (Мінск), перакладчык.
**Анастасія Багай**, магістр псіхалогіі, студэнтка ГрДУ (2005—2011)
**Юрый Паўлоўскі**, Мінск, прадпрымальнік.
**Валянціна Лебедзева**, выкладчык (Гомель).
**Алеся Яфімава**, магістр біялагічных навук.
**Злата Ізвалава**, Мінск.
**Сяргей Бароўскі**, настаўнік гісторыі, выпускнік ГрДУ.
**Даша Слабчанка**, магістр еўрапейскіх навук.
**Віктар Кірэеў**.
**Аляксей Івашчанка**, інжынер.
**Ганна Жаўняровіч**, выпускніца гістарычнага факультэта БДУ.
**Таццяна Макаль**, дырэктар СШ №4 Жодзіна.
**Яўген Трубіла**, настаўнік гісторыі, выпускнік гістфака БДУ (Баранавічы).
**Аляксей Братачкін**, гісторык.
**Андрэй Кавалевіч**, выпускнік фізічнага і юрыдычнага факультэтаў БДУ.
**Пятро Крышчык**, вялікі аматар гісторыі.
**Маргарыта Сцешык**, выпускніца гістфака БДПУ.
**Артур Клінаў**, мастак.
**Марыя Якаўцова**, аспірантка гістарычнага факультэта БДУ.
**Галіна Грабоўская**, выпускніца гістфака БДУ.
**Максім Яўменаў**, гісторык, гарадзенец.
**Аляксей Азараў**, Запорожжа.
**Анатоль Марозаў**, эканаміст.
**Віктар Парфененка**, магістар тэалогіі, Універсітэта кардынала Вышынскага ў Варшаве.
**Кастусь Прусаў**, Гомель, мастак, дызайнер, выкладчык Школы мастацтваў 2001—2009, выпускнік Акадэміі мастацтваў.
**Лізавета Мерляк**, Гродна, Беларускі незалежны прафсаюз, міжнародны сакратар.
**Сяргей Саханько**.
**Пятро Маркелаў**.
**Настасся Яўмен**, магістар палітычных навук (Вільня).
**Мікола Бамбіза**.
**Аляксандр Мілінкевіч**, Рух «За Свабоду», краязнаўца.
**Іна Кулей**, Камітэт абароны рэпрэсаваных «Салідарнасць».
**Алесь Госцеў** (Гродна), адзін з аўтараў «Гродназнаўства».
**Віктар Маслоўскі**.
**Людміла Літвінава**, Мінск.
**Ілля Радзюк**, святар, Кіеў — Гродна.
**Алесь Крой** (Гродна), выпускнік БДУ.
**Вацлаў Шчарбіцкі**, рабочы (Глыбокае).
**Віктар Баўкуновіч**.
**Валянцін Грышчанка**, інжынер.
**Ала Сідаровіч**, культуролаг.
**Васіль Лапацін**, краязнаўца, настаўнік, лаўрэат Міжнароднай Пушкінскай прэміі для настаўнікаў рускай мовы і літаратуры.
**Аляксей Ігнатовіч**, выкладчык, Мінск.
**Наталля Каткова**, архітэктар. Мінск.
Уладзімір Кабердзін.
**Марыя Сляпцова**, студэнтка ЕГУ, Міжнароднае права.
**Аляксандр Друмс**, студэнт 3 курса ГрДУ.
**Мікола Шафарэнка**.
**Вераніка Лапуцька**, магістар палітычных навук.
**Вітольд Ашурак**, Бярозаўка. Будаўнік.
**Наталля Кізюкевіч**, гісторык.
**Андрэй Бусько**, былы студэнт факультэта матэматыкі ГрДУ.
**Ева Гілевіч**, выпускніца МДЛУ, лінгвіст-перакладчык-выкладчык, Мінск.
**Станіслаў Хануцін**, мастак.
**Яўген Чыгір**, інжынер, Гродна.
**Вольга Глінская**.
**Алег Гілеўскі**, праграміст, Мінск.
**Антон Астаповіч**, старшыня Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.
**Аляксандр Кавалёў**, настаўнік геаграфіі.
**Антон Сурапін**, Мінск, журналіст.
**Яўген Юнцэвіч**, студэнт юрыдычнага факультэта ГрДУ.
**Аляксандр Сіраж**.
**Юры Жук**.
**Феликс Акерман**, ЕГУ (Вільня).
**Зміцер Драздоў**, праграміст, Мінск.
**Алена Касянчук**, рэдактар часопіса «LO_ok», Гродна.
**Андрусь Клікуноў**, магістр дзяржаўнага кіравання, перакладчык, сябра Рады ГА «БАЖ».
**Таццяна Севярынец** (Віцебск). Звольненая настаўніца рускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі.
**Ціна Палынская**, хатняя гаспадыня.
**Аляксандр Палынскі**, літаратар.
**Васіль Ермакоў**, банкір.
**Гэнік Лойка** (Мінск), скульптар.
**Ірына Давідовіч**, Іўе.
**Таццяна Тоўсцік**.
**Сяргей Навумчык**, намеснік Старшыні Рады БНР.
**Ілля Чыжоў** (Мінск), магістр архітэктуры.
**Наталля Валчэцкая**, юрыст, выпускніца юрфака ГрДУ.
**Раман Хадзько**, праграміст, Мінск.
**Павел Крывіцкі**, Гродна.
**Віктар Балошка**, Гродна.
**Наталля Хоміч**, Мінск, дантыст.
**Міхась Нарынкевіч**, гісторык, выпускнік ГрДУ імя Я.Купалы.
**Вольга Ахрук** (Беласток), журналіст радыё «Рацыя».
**Ціхан Чарнякевіч**, гісторык літаратуры.
**Вадзім Цярлецкі**, Гродна.
**Валянціна Мукес**, Германія.
**Міраслаў Лазоўскі**.
**Ганна Правалінская** (Віцебская вобласць).
**Стэфан Стац**, навуковы супрацоўнік Інстытута славянскіх даследаванняў Лейпцыгскага ўніверсітэта, Нямеччына.
**Аляксандра Ігнатовіч**, магістарка сацыялогіі, Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт (Літва).
**Дзмітры Антаневіч**, каваль, Гродна.
**Аляксандр Кузняцоў**, перакладчык, Гродна.
**Марына Кузняцова**, магістр філалагічных навук, Гродна.
**Наталля Протман**, Швейцарыя.
**Вольга Бабкова**, загадчыца аддзела старажытных актаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.
**Ганна Баўшэвіч**, выпускніца ГрДУ ім. Я.Купалы, магістр тэхнічных навук, інжынер-праграміст.
**Любоў Сычык**, настаўнік гісторыі.
**Таццяна Сабалеўская**, выпускніца гістфака ПГУ.
**Яўген Пілец**, Гродна.

Подпісы пад лістом працягваюць збірацца.

# Мяса ў Беларусі даражэйшае, чым у Польшчы

Але можа падаражэць яшчэ.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Міністэрства эканомікі павялічыла адпускныя цэны на ялавічыну і свініну на 30%. Гэта тыя цэны, па якіх камбінаты прадаюць мяса ў крамы і на рынкі. Пастанова датычыць так званага «сацыяльнага» таннага мяса, якое ў момант раскупляюць пенсіянеры. Аднак лічбы на цэнніках «несацыяльнай» ялавічыны і свініны таксама падрастуць, пераконваюць прадаўцы.

Кілаграм філе свініны на Камароўцы яшчэ можна знайсці за 70—80 тысяч рублёў. Але нават гэтыя лічбы здаюцца многім беларусам занадта высокімі.

«Цэны будуць імкнуцца да ўзроўню цэнаў на вонкавым перыметры і ў першую чаргу да ўзроўню цэнаў у Расіі», — прадказваў год таму тагачасны віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Што ж, у Маскве свініна насамрэч каштуе тыя ж 80—100 тысяч рублёў, аднак у астатніх краінах вакол Беларусі мяса нашмат таннейшае!

### Чаму палякі могуць?

Возьмем для прыкладу цэны ў Польшчы. Па «акцыі тыдня» ў сетцы крамаў Tesco набыць кілаграм філе свініны можна ўсяго за 34 тысячы рублёў! Да зніжкі яно каштавала 50 тысяч — усё адно значна танней, чым у Беларусі. Астатнія цэны таксама ніжэйшыя (гл. спіс), таму беларусы падчас «шоп-тураў» у Беластоку ці Цярэспаль імкнуцца закупіцца танным мясам і правезці, хай і нелегальна, яго праз мяжу.

У чым сакрэт поспеху заходніх суседзяў? У Польшчы ў вёсках дамінуюць прыватныя гаспадаркі. Сялянскае лобі ў польскай палітыцы даволі моцнае. Польская сялянская партыя другія выбары запар уваходзіць ва ўрад.

**Цэны ў Беластоку (за кг)**

курыца, чацвярцінкі — ад 13 500 рублёў

фарш са свініны і ялавічыны — ад 24 300 рублёў

філе свініны без костак (паляндвіца) — ад 38 000 рублёў

**Цэны ў Мінску (за кг)**

курыца — ад 26 000 рублёў

фарш са свініны і ялавічыны — ад 50 000 рублёў

філе свініны без костак (паляндвіца) — ад 70 000 рублёў

Аграгарадкоў там не будуюць, прэзідэнт там не праводзіць нарадаў па арганізацыі пасяўной і ўборачнай. Тым не менш, сельская гаспадарка краіны працуе даволі эфектыўна. Польскія сяляне моцна выйгралі ад еўрасаюзаўскіх фондаў і адкрыцця рынку ЕС для польскай прадукцыі.

### Амерыка загнівае

Беларускія прапагандысты не звяртаюць увагу на гэтыя дасягненні палякаў, затое апошнім часам актыўна пішуць пра глабальныя праблемы амерыканцаў. «Цэны на прадукты і бензін выраслі ўдвая. Сярэдні клас раздушаны», — зласліва паведаміла «Советская Белоруссия» пра сітуацыю ў ЗША. «Няўжо ўсё так дрэнна ў Новым свеце?» — запыталіся мы ў амерыканскіх чытачоў сайта «Нашай Нівы».

«У Каліфорніі свіное філе каштуе 56 тысяч рублёў за кілаграм. Літр бензіну — 8500 рублёў за літр. І Каліфорнія лічыцца дарагім штатам! А вось сярэдні заробак сям'і тут — $6500 у месяц», — напісаў беларус Алесь Арцюховіч, які працуе хімікам.

Ёсць і скептычныя меркаванні. «Можа, мяса і таннае, але альбо на распродажы, альбо якое-небудзь генна-мадыфікаванае. Ні ў адным са штатаў, дзе я быў, не бачыў мяса таннейшага, чым у Беларусі, — дзеліцца сваімі назіраннямі Уладзімір. — Можна купіць сасіскі за 15—20 тысяч рублёў. Але гэта будуць сасіскі з сояй».

Тым не менш, большасць сышлася ў думцы: амерыканцы і палякі зарабляюць нашмат больш, а на прадукты трацяць столькі ж.

«Паліва каштуе каля 8500 рублёў за літр, і такая цана трымаецца ўжо года паўтара, плюс/мінус 2500 рублёў, — расказвае чытач пад нікам cosmos_molo. — Калі купляць вялікі кавалак паляндвіцы, то будзе каштаваць каля 40 тысяч рублёў за кілаграм, а драбнейшы — каля 60 тысяч. За добрую ялавічыну — 75—80 тысяч рублёў. На жаль, чытачы «СБ» не пабачаць гэтага і будуць упэўнены, што Амерыка тут загінаецца...»

**Ягор Марціновіч**




## Беларусы скупляюць валюту

За верасень насельніцтва набыло валюты **на $366 мільёнаў** больш, чым прадало.

Нацбанк апублікаваў справаздачу аб купліпродажы валюты за студзень-верасень 2012 года. Як высветлілася, за апошні месяц насельніцтва масава скупляла валюту: на $366 мільёнаў больш, чым прадало. Масавая скупка пачалася ў чэрвені, раней насельніцтва перадусім здавала валюту.

Юрыдычныя асобы-рэзідэнты набылі на чыстай аснове на $169 мільёнаў больш, чым прадалі. У нерэзідэнтаў паказчык склаў $77 мільёнаў. Такім чынам, на рынку агулам было скуплена на $611 мільёнаў больш, чым прададзена.

Між тым абвешчана, што золатавалютныя рэзервы за гэты перыяд паменшалі нязначна, што выклікае па меншай меры здзіўленне.

**ЯМ**

## Швейцарскія электрычкі стануць беларускімі

Пад Фаніпалем **пачалося будаўніцтва** завода па вытворчасці цягнікоў.

Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч заклаў сімвалічную капсулу ў падмурак завода па вытворчасці электрычак Stadler у Беларусі. Куратарам праекта стаў цяперашні міністр замежных спраў Уладзімір Макей.

У сумесным швейцарска-беларускім ААТ «Электрычны транспарт» 40% акцый атрымаў «Белкамунмаш». Мяркуецца, што грошы на рэалізацыю праекта дасць Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця. Першасныя інвестыцыі складуць $50 мільёнаў.

Першыя электрычкі павінны сысці з канвеера да Чэмпіянату свету па хакеі ў маі 2014 года. У будучыні ж мяркуецца штогод выпускаць 80—100 цягнікоў.

Беларуская чыгунка ўжо набыла дзесяць швейцарскіх цягнікоў Stadler, коштам каля 6 мільёнаў еўра кожны. Цяпер яны ездзяць з Мінска ў бліжэйшыя гарады, а таксама ад сталіцы ў бок Брэста і Оршы.

**ЯМ**

## Сцісла

### Банкі купляюць дзяржаўныя аблігацыі

Міністэрства фінансаў выставіла на продаж першы пакет валютных дзяржаўных аблігацый Рэспублікі Беларусь. Першым купцом стаў «Банк БелВЭБ» (былы «Белзнешэканомбанк»), які набыў каштоўных папер на $100 мільёнаў. Стаўка складае каля 7-8% гадавых. Грошы будуць вернутыя праз 3 гады.

### Маршруткі адгукнуліся на крызіс

Пасля чарговага падаражання бензіну на 5% уласнікі сталічных маршрутных таксі паднялі тарыф на праезд на 17—35%. На асобных кірунках білет цяпер каштуе 8 тысяч рублёў. Услед могуць падаражэць і маршруткі ў рэгіёнах.

### Самыя дарагія беларускія брэнды

Украінскае агенцтва MPP Consulting склала рэйтынг 100 самых дарагіх беларускіх брэндаў. Першае месца ў спісе ўтрымлівае брэсцкі «Санта-Брэмар» Аляксандра Машэнскага. Яго назва каштуе $75,3 мільёна. Другое месца ў «Мілавіцы» — $71,5 мільёна. Нарэшце, на трэцяе месца выбілася магілёўская «Бабуліна крынка». Эксперты ацанілі яе ў $49,2 мільёна. Год таму брэнд каштаваў усяго $5,55 мільёна.

**ЯМ**

# Казённыя могілкі для псіхічна хворых

**У Барысаўскім раёне побач з псіханеўралагічным домам-інтэрнатам у вёсцы Тарасікі фатограф «НН» знайшоў могілкі, на якіх хаваюць псіхічна хворых пацыентаў.**

Пахаванні пацыентаў «барысаўскіх Навінак», як называюць дом-інтэрнат № 2 у вёсцы Тарасікі, месцяцца ў лясным масіве сярод балот. Побач з могільнікам кропкамі раскіданы таварыствы дачнікаў. Вёсак амаль няма.

Шэрыя бетонныя слупы абгароджаны то калючым дротам, то старымі заплеснелымі жэрдкамі. Побач з могільнікам смеццевыя адвалы з дома-інтэрната. Смецце спецыфічнае — іржавыя бляшанкі з-пад кансерваў, абгорткі ад «спецлекаў» — трамадолу, галаперыдолу... Крыжоў і помнікаў на гэтых могілках адзінкі. Дый тыя датуюцца то 70-мі, то 80-мі гадамі мінулага стагоддзя. Асноўны напамін пра пахаваных тут пацыентаў — барвовыя слупкі з нумарамі і металічнымі таблічкамі з імёнамі і гадамі жыцця. Зарослая дзікая трава ў чалавечы рост, аблезлая фарба слупоў, іржавыя адзінкавыя агароджы — жудасная карціна.

Але так выглядаюць, бадай што, кожныя «казённыя» могілкі па ўсёй краіне. Роўныя шэрагі слупоў — на першых ад дарогі пазначаны нумар шэрага.

Дагледжанымя толькі некалькі магіл. Астатнія паволі зраўноўваюцца з зямлёй. Варта адзначыць, што большасць пацыентаў інтэрната ў вёсцы Тарасікі не маюць апекуноў ці іх сваякі не ў стане глядзець іх. Прычыны ў кожнага свае, але калі няма справы да жывых, то пра пахаванні казаць увогуле не выпадае...

**Сяргей Гудзілін**




**In memoriam**

## Сяржук Цімохаў

**Яму было 52 гады.**



9 кастрычніка не стала мастака Сяргея Цімохава. Ён быў намеснікам старшыні Саюза мастакоў Беларусі, некалі ўдзельнічаў у «Майстроўні».

Сябры ведалі, што Цімохаў пакутуе на страшную хваробу — за паўгода да смерці ўрачы выявілі ў яго меланому. Мастак Генадзь Лойка, сябра Цімохава па «Майстроўні», кажа, што апошнім часам Цімохаў пачуваў сябе лепей.

«Мы разам вучыліся, — кажа спадар Лойка. — Разам змагаліся за беларускую мову, вучылі беларускія песні. Ён быў на год старэйшы за нас, але вельмі наблізіўся да нашай кампаніі, асабліва пасля таго, як ажаніўся з Рытай Радашок, нашай аднагодкай. Якое вяселле было — мы паехалі ў вёску вялікай кампаніяй!»

Творы Цімохава можна ўбачыць у розных еўрапейскіх музеях — ад галерэй у Варшаве і Дрэздэне да Мастацкага фонда Міністэрства культуры Расіі і ў музеі Марка Шагала ў Віцебску.

Мастак ніколі не меў шкодных звычак, таму страшны дыягназ шакаваў ягоных сяброў. Пра хваробу Цімохава сябры ведалі, але навіна пра смерць мастака ўсё адно стала нечаканай.

«Мы збіраліся з майстроўцамі на прэзентацыю кнігі Дубаўца, — кажа Лойка. — Цімохаў таксама прыйшоў, яму стала лепей, гэта было відаць».

«Яго вельмі цікавіла Беларусь за часамі паганства, — узгадвае Генік. — Усе гэтыя стоды, крыжы — вось гэта была ягоная тэматыка. Вельмі лёгкі і вясёлы чалавек, і пры гэтым настолькі сур'ёзны мастак».

Па Цімохаву засталіся жонка Рыта, а таксама дзеці — Глеб і Вальжына.

**Юрась Ускоў**

## Дзявочае трыа з Магілёва «парвала» Украіну

**Гурт «Беатрыс», адкінуты на АНТ, прайшоў адбор у «X-Factor-3».**



Дзявочы гурт «Беатрыс» з Магілёва сарваў авацыі на адборачным этапе шоу талентаў «X-Factor-3». Выступ падняў з месцаў гледачоў і ашаламіў экспертаў.

Передача паказваецца ў запісе, яна адбылася ў пачатку ліпеня. З мінулага тыдня на ўкраінскім ТБ нацыянальны «X-Factor-3» будзе паказвацца ўвесь сезон. Да якога этапу ў ім дайшлі жыхаркі Магілёва, пакуль невядома — дзяўчаты падпісалі кантракт аб неразгалошванні.

Дзяўчаты спяваюць у стылі соўл, менавіта праз гэта іх не адабралі на конкурсы на беларускім тэлебачанні — нефармат.

Перад гэтым ва ўкраінскай перадачы «Акадэмія таленту» з фурорам выступіў жодзінец Яўген Літвінковіч.

**«Салідарнасць»**



СТАСЕЛЬКА КІРЫЛ ІГАРАВІЧ. ПАШП. MP2118325 ВЫДАДЗЕНЫ ЦЭНТРАЛЬНЫМ РУУС МІНСКА

## У Расіі «жыгуль» з п'янымі вайскоўцамі пратараніў царкву

**Аўто павісла на трохметровай вышыні.**

8 кастрычніка ў храм, размешчаны на тэрыторыі пасёлка Зарэчча (Чалябінская вобласць), на вялізнай хуткасці ўрэзаўся аўтамабіль «ВАЗ-2114». Машына спачатку вылецела на агароджу, якая стала для легкавушкі трамплінам. Аўто падскочыла ўверх, урэзалася ў драўляную сцяну з боку алтара і павісла ў праёме на трохметровай вышыні.

Па словах мясцовых жыхароў, у «ВАЗе» былі два вайскоўцы, «відавочна нецвярозыя». З цяжкімі траўмамі абодва шпіталізаваныя.

У момант аварыі ў храме ішла ранішняя служба. Протаіерэй Юры, як служыў, за пару хвілін да здарэння адышоў ад звычайнага месца ля алтара, што выратавала яму жыццё. Ніхто з вернікаў не пацярпеў.

**ЛМ**



# Моцны вецер сарваў дах з Сафійскага сабора

Нанесена шкоды на дзясяткі мільёнаў рублёў.


Кроквы на даху мянялі толькі тры гады таму.
http://ximik.info

Па інфармацыі МНС, моцныя парывы ветру 6 кастрычніка пашкодзілі каля 300 квадратных метраў бляшанага даху Сафійскага сабора ў Полацку. У гэты дзень парывы дасягалі 28 метраў за секунду. Найбольш пацярпела акурат Віцебская вобласць: дзесяць населеных пунктаў у шасці раёнах.

Па словах дырэктара Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка, у які ўваходзіць і сабор, Тамары Джумантаевай, яшчэ вядуцца падлікі нанесенай шкоды. Але ўжо можна гаварыць, што гэта дзясяткі мільёнаў рублёў. Працягваюцца аднаўленчыя работы. На разборку завалаў былі прыцягнуты і вайскоўцы.

Адметна, што толькі тры гады таму дах храма адрамантавалі. У чэрвені 2010 у Сафійскім саборы пачалася рэстаўрацыя. На месяц там былі прыпыненыя экскурсіі, каб замяніць кроквы.

Полацкі Сафійскі сабор быў пабудаваны ў XI ст. Яго ўзводзілі з арыентацыяй на Сафіі Ноўгарада і Кіева. У канцы XV — пачатку XVI перабудаваны ў пяцівежавы храм абарончага тыпу. Двойчы гарэў. У 1710 узарваны расійскімі войскамі. У сярэдзіне XVIII ст. перабудаваны ў стылі позняга барока. Сёння ў будынку храма размяшчаецца канцэртная зала і Музей гісторыі і архітэктуры Сафійскага сабора.

**Сяргей Макарэвіч**

## Пацаны прыйшлі ў чорных масках у каледж

У мінскай Дражні старшакласнікі зладзілі масавую бойку.

У сталічным мікрараёне Дражня старшакласнікі зладзілі бойку з навучэнцамі каледжа. Інцыдэнт адбыўся на мінулым тыдні.

Па інфармацыі УУС Фрунзенскага раёна, старшакласнікам мясцовых навучальных устаноў здалося, што іх недастаткова паважаюць навучэнцы аднаго з каледжаў. У дадатак аднаго з завадатараў кампаніі пакрыўдзілі навучэнцы.

На «разборкі» пацаны сабраліся з самай раніцы ў лесапаркавай зоне. Затым 15 падлеткаў, адзеўшы чорныя маскі з прарэзамі для вачэй, з'явіліся на тэрыторыю каледжа і знайшлі крыўдзіцеляў у адной з курылак.

У ходзе размовы адзін з навучэнцаў адказаў «не па паняццях», гэта і стала падставай для першага штуршка і наступных удараў. Неўзабаве да бойкі падключыліся новыя ўдзельнікі як з боку навучэнцаў каледжа, так і з боку школьнікаў. «Разборка» працягвалася літаральна пару хвілін. Убачыўшы патрульную машыну, хлопцы разбегліся.

Цягам гадзіны ўсіх удзельнікаў патасоўкі затрымалі. Свой учынак кампанія школьнікаў патлумачыла тым, што хацела адпомсціць навучэнцам за нанесеную таварышу крыўду, а таксама «навесці парадак» у Дражні.

Некалькі навучэнцаў каледжа звярнуліся ў медыцынскія ўстановы з ранкамі і ўдарамі.

У дачыненні да падазраваных у хуліганскіх дзеяннях заведзена крымінальная справа. На дадзены момант зламыснікі адпушчаныя пад падпіску аб нявыездзе.

**КМ**

## У Гродне «Фальксваген» збіў жанчыну, а «БМВ» працягнуў яе па асфальце

Кіроўцы наладзілі гонкі па начным горадзе.



Ад 27 верасня да 7 кастрычніка ў Беларусі праводзілася прафілактычная акцыя «Пешаход». Паводле інфармацыі прэс-службы УДАІ МУС, за гэты час пад коламі аўто загінула 16 пешаходаў.

Трагедыя здарылася 5 кастрычніка. Паводле інфармацыі ДАІ, маладыя людзі на аўтамабілях пасля працы вярталіся ў іншы канец горада. На вул. Саломавай 19-гадовы кіроўца «Фальксвагена» на вялікай хуткасці па правым шэрагу на добра асветленым пераходзе збіў жанчыну. Яна паспела прайсці тры паласы, а на чацвёртай яе зачапіла. Жанчына праляцела ў паветры каля трыццаці метраў і трапіла пад колы «БМВ». Апошні працягнуў яе па асфальце яшчэ каля 30 метраў. 49-гадовая гараджанка памерла на месцы.

Даішнікі па слядах на асфальце мяркуюць, што хуткасць «Фальксвагена» на момант здарэння была не меншай за 100 км/г. Хоць сам кіроўца інспектарам хуткасць заменшыў на трацціну. Ён сцвярджаў, што жанчына рэзка выбегла на дарогу. Па інфармацыі ДАІ, малады кіроўца здаў тэарэтычны іспыт з шостай спробы, практычны — з пятай. Пасведчанне атрымаў год таму, за гэты час пяць разоў штрафаваўся за парушэнні правілаў руху.

Кіроўца «БМВ» сцвярджае, што жанчыну ўбачыў толькі тады, калі яна трапіла яму пад колы. Ён не змог назваць дакладную хуткасць, з якой ехаў у той момант: «Кіламетраў 70, можа 85». Ён атрымаў пасведчанне пяць гадоў таму і за гэты час 19 разоў штрафаваўся, у тым ліку пазбаўляўся правоў за перавышэнне хуткасці. Ужо пасля гэтага ён затрымліваўся за рулём п'яным.

**Сямён Печанко**

## Патрабуючы гарэлку, узяў у закладнікі ўласнага сына

Затрымаць мужчыну аказалася нескладана — ён быў ушчэнт п'яны.

Нецвярозы мужчына ў Лідзе закрыўся у сваім доме і, пагражаючы забойствам уласнага дзіцяці, высунуў жонцы патрабаванне — перадаць яму бутэльку гарэлкі.

«Ужо некалькі месяцаў падазраваны не пражывае разам з жонкай, — расказаў маёр Лідскага РАУСа Леанід Пракопчык. — У тую раніцу ён да яе прыйшоў, каб убачыцца з сынам. Улічваючы, што ў той момант мужчына быў цвярозым, яна дазволіла яму ўзяць дзіця з сабой. Дома падазраваны выпіў віна, пасля чаго набраў на мабільны жонцы. У ходзе размовы яму здалося, што на заднім плане хтосьці гутарыць. Уяўленне нецвярозага хлопца тут жа нарадзіла вобраз палюбоўніка. Тады ён прыгразіў расправіцца з сынам (зарэзаць), калі жонка не з'явіцца да яго дадому з бутэлькай гарэлкі. Пасля размовы жанчына адразу ж звярнулася ў міліцыю. Праваахоўнікі неадкладна ачапілі дом, дзе знаходзіўся падазраваны. У іх прысутнасці ён зноў пацвердзіў свае патрабаванні, толькі вось алкаголь перадалі яму праз сястру — жонка ўвайсці ўнутр не адважылася.

Праз некаторы час, знайшоўшы зручны момант, міліцыянты праніклі ў памяшканне праз гарышча і затрымалі мужчыну. Зрабіць гэта было нескладана — на падлозе ляжала пустая бутэлька, а падазраваны быў ушчэнт п'яны і супраціву не аказаў. З дому яго адвезлі не ў райаддзел, а ў шпіталь, дзе лекары канстатавалі ў яго атручанне этылавым спіртам».

Крымінальная справа заведзена па артыкуле «Вымагальніцтва».

**Паводле uvd.grodno.by**

### Сцісла

**Збілі кіроўцу проста на дарозе**

Кіроўца Audi ў Мінску выехаў на сустрэчку, падрэзаўшы другую машыну. У адказ кіроўца і пасажыр іншага аўтамабіля на святлафоры выскачылі з аўто і накінуліся з кулакамі на кіроўцу Audi. Мужчыны адкрылі дзверы і сталі нагамі і рукамі біць яе ўладальніка.

**Няшчасны выпадак на «Нафтане»**

З 18-метровай вышыні абрынуліся будаўнічыя лясы, на якіх знаходзіліся два чалавекі. 55-гадовы мужчына, грамадзянін Расіі, загінуў. Тэхнічны інспектар пецярбургскага філіяла нарвежскай фірмы шпіталізаваны з траўмамі.

**Аўтобус урэзаўся ў «хуткую»**

Аўтобус «МАЗ» хакейнага клуба «Юнацтва-Мінск» сутыкнуўся з машынай хуткай дапамогі ў цэнтры Мінска — у раёне Акадэміі навук. Трох супрацоўнікаў хуткай дапамогі, уключаючы кіроўцу, даставілі ў Гарадскую клінічную бальніцу хуткай дапамогі. Цяпер яны знаходзяцца ў траўматалагічным аддзяленні.

**КМ**

# Аўрал перад «Дажынкамі» ў Горках вылазіць бокам



Правалы ў дарожках, наплывы пяску на ходніках, ліхтары, гатовыя абрынуцца, ды іншыя наступствы працы абы з рук. Сайт horki.info публікуе фотаздымкі вуліц горада, які нядаўна прымаў у сябе «Дажынкі». Здаецца, настаў той момант, калі адказным асобам самы час прайсціся па тых аб'ектах, якія яны прынялі перад «Дажынкамі» і паглядзець на якасць працы яшчэ раз, піша сайт.

## Харукі Муракамі — яўны лідар у букмекераў на атрыманне Нобеля ў літаратуры

Імя лаўрэата будзе названа **11 кастрычніка**.



63-гадовы японскі пісьменнік Харукі Муракамі **(на фота)** з'яўляецца галоўным прэтэндэнтам на атрыманне Нобелеўскай прэміі па літаратуры, калі верыць букмекерскім канторам.

Напрыклад, ladbrokes.com прымае стаўкі на перамогу Муракамі ў суадносінах 2 да 1. Муракамі — аўтар наступных раманаў: «1Q84», «Кафка на пляжы», «Нарвежскі лес», «Дэнс, Дэнс, Дэнс», «Слухай песню ветра» і інш.

8 да 1. Такія стаўкі прымаюцца на кітайца Мо Яня, а таксама венгра Петэра Надаша. Праўда, Венгрыя ўжо атрымлівала ў апошняе дзесяцігоддзе Нобеля ў літаратуры (Імрэ Кертэс).

10 да 1. З такім каэфіцыентам можна паставіць на 83-гадовага англічаніна Уільяма Трэвара і амерыканскага спевака Боба Дылана. Апошні быў лідарам у букмекераў год таму, але прэмію ўручылі шведскаму паэту Тумасу Транстромеру.

Шанцы чэха Мілана Кундэры на перамогу ацэньваюцца як 16 да 1, полькі Вольгі Такарчук — 20 да 1, Умберта Эка — 25 да 1, Яўгена Яўтушэнкі — 66 да 1.

Уладзіміра Някляева сярод кандыдатаў, што прапануюць букмекеры, няма. Някляева на Нобелеўскую прэмію ў літаратуры летась вылучаў Беларускі ПЭН-Цэнтр.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**




## Брытагаловыя на бронемашыне

Рэклама **праўладных камуністаў**.

«КПБ. Народ. Парадак» — напісана на ўлётках. У панядзелак на сустрэчы з другім сакратаром ЦК КПБ Ігарам Карпенкам Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ўлада будзе падтрымліваць патрыятычныя партыі, у тым ліку КПБ.

**Сямён Печанко**

## Азаранка — чэмпіёнка Кітая

Першая ракетка свету **выйграла турнір** у Пекіне.

У фінале Адкрытага чэмпіянату Кітая па тэнісе (China Open, прызавы фонд 4 828 050 даляраў ЗША) беларуска Вікторыя Азаранка без праблем перамагла расіянку Марыю Шарапаву з лікам 6:3, 6:1.

Гэта 13-ы тытул беларускі ў індывідуальным разрадзе і 5-ы сёлета. Раней Віка перамагала на турніры ў Сіднэі (13 студзеня), Адкрытым чэмпіянаце Аўстраліі (28 студзеня), Досе (19 лютага), Індыян-Уэлсе (18 сакавіка). Таксама была бронза ў адзіночцы і золата ў пары на Алімпіядзе ў Лондане.

**АГ**





**Камертон Сяргея Ваганава**

## Два грузіны

Аляксандр Лукашэнка хоча вярнуць Грузію ў СНД.

Я не быў у Грузіі, але ведаю двух грузінаў.

Адзін з іх — Чабуа Амірэджыбі, знакаміты пісьменнік, у маіх вачах — жывы Сервантэс, калі лічыць ягоны геніяльны раман «Дата Туташхія» грузінскім «Дон Кіхотам». Ён і сам нагадвае Дон Кіхота — высокі, хударлявы, з вачыма, поўнымі сумнай іроніі і прыроджанай высакароднасці. Да таго ж, па паходжанні ён князь і тройчы ўцякаў са сталінскіх лагераў.

Апошні раз уцёк у Беларусь.

Недзе ў сярэдзіне 1980-х мне разам з Віктарам Казько і Яўгенам Будзінасам пашанцавала з'ездзіць з ім у мястэчка Ілля, непадалёк ад Вілейкі. На здзіўленне хутка, калі мець на ўвазе час, што прайшоў ад канца 1940-х, мы знайшлі лесапільню на ўскрайку Ільлі. Праз пяршысты пах апілак прабіваўся смалісты — ад вырабленӗй драўніны, цэлыя бярвенні ляжалі покатам, навокал — ані душы.

Мы шукалі чалавека, на жаль, забыўся на яго імя, які напрыканцы 40-х працаваў на лесапільні галоўным бухгалтарам. Адшукалі, нарэшце. Зморшчыўшы старэчы, у плямах, лоб ды жмурачы вочы, ён углядаўся ў нечаканага госця, пакуль не з'явілася жонка і не пляснула рукамі: «Лявон!»

Лявонам звалі чалавека, які працаваў у тыя гады дырэктарам лесапільні, а насамрэч быў збеглым зэкам Чабуа Амірэджыбі...

Лявон быў вельмі добрым дырэктарам і паважаным чалавекам. Яго нават ледзь не ўзнагародзілі ордэнам Леніна, але ён упрасіў міністра не ўзнагароджваць, маўляў, не заслужыў...

Яшчэ ў Лявона былі два сябры — былыя партызаны, дырэктары мясцовых цагельнага і шкляного заводзікаў. Калі на «шкляра» завялі крымінальную справу за прададзены ў Літву грузавік бутэлек, ён прыйшоў да Лявона раіцца, што рабіць: уцячы ці рыхтавацца да плахі ў разліку на паратунак сяброў-партызан, што сталі вялікімі начальнікамі. «Я параю табе, каб ты ўцёк, — адазваўся Лявон, — а цябе зловяць. Я параю табе, каб ты ішоў на плаху, а сябры-партызаны не выратуюць. Скажы лепш, чым дапамагчы?» «Звязі адсюль, схавай жонку і дзетак».

### Нават паспелі прывітальна памахаць рукой: «Гамарджоба!..»

Звёз, схаваў. Але сам быў вылічаны і зноўку кінуты ў лагер на 25 гадоў. Вызвалены ў 1959.

І галоўны бухгалтар лесапільні сваё адседзеў — за тое, што быў у нямецкім палоне, але да часу здолеў гэта схаваць. Чабуа, вядома, пра тое не ведаў і напружана слухаў, пакуль мы дапівалі самагонку і даядалі хатнюю кілбасу.

Былога дырэктара цагельнага завода мы таксама знайшлі — ужо ноччу, здаецца, у Радашковічах ці ў Красным, даўно было...

«Цагельшчык» блытаўся ва ўспамінах, нешта выдумляў пра тое, як разам партызанілі, з насцярогай адказваў на пытанні — відавочна вырашыў, што і за ім, у рэшце рэшт, таксама прыйшлі... А потым, пасля тостаў «за сустрэчу», што суправаджалі даволі змрочнае застолле, паведаміў, што «шкляра» ўсё ж пасадзілі і ў турме ён павесіўся...

Пры Гамсахурдзіі Чабуа Амірэджыбі ізноў абвяшчалі «ворагам народа», палілі кнігі... Але дзеці працягвалі гуляць у Дату Туташхія.

Апошнія гады Чабуа хварэе на горла, яму цяжка размаўляць. Але не маўчыць. На пытанне аб «кровапрлівай асецінскай праблеме» адказвае: «Асеціны сталі ахвярамі імперскай палітыкі, а ў выніку зрабілі ахвярамі і нас...»

Аб гэтым расказаў мне другі грузін, якога я ведаю, журналіст Амар Чыхладзэ. Насамрэч ён селянін — прыкупіў кавалак зямлі непадалёк ад Тбілісі і працуе на ёй амаль увесь год. Я ўяўляю, як цяжка ён працуе — у яго няма нагі.

У Мінск ён прыязджаў праз два ці тры месяцы пасля жніўня 2008. Мы абняліся, і я спытаў у яго: «Сын?»

Ягоны твар скрывіўся ад болю, і ён узняў рукі да нізкай столі старой «хрушчоўкі», нібыта там было неба: «За што?! За што Ты забраў майго хлопчыка? Д'ябал больш сумленны за цябе, ён не хлусіць, калі забівае...»

Я спытаў, як загінуў ягоны Гіга.

«Я стрымліваў яго, хаця сам чуў, што вайна там ужо скончылася. Але гэты нягоднік [Саакашвілі — **С.В.**] схлусіў, і яны з Сашам Клімчуком паехалі — Гіга пісаць, Саша здымаць, яны з дзяцінства сябравалі, грузін і рускі. Яны ўжо вярталіся, калі ўбачылі жаўнераў у грузінскай вайсковай форме. Спыніліся, выйшлі з машыны, нават паспелі прывітальна памахаць рукой: «Гамарджоба!..» Яны вырашылі, што гэта грузіны...

Я паглядзеў у асляплы ад гора твар майго сябра і прыгадаў, што ведаў яшчэ аднаго грузіна, каторага ведалі ўсе. Але ён не быў грузінам. Ён і ягоныя падручныя не былі ні грузінамі, ні габрэямі, ні рускімі, ні беларусамі, ні асецінамі... Яны былі катамі і рэзалі па жывым. Па людзях, сем'ях, народах ды землях гэтых народаў...

Аляксандр Лукашэнка хоча зноў уцягнуць Грузію ў СНД. Ён, мабыць, упэўнены, што грузіны толькі і мараць аб вяртанні на рэштка СССР...

*kamerton_41@mail.ru*

# Віншуем настаўнікаў!

У першую нядзелю кастрычніка ў Беларусі адзначаецца Дзень настаўніка. Дарэчы, ва ўсім свеце, больш чым у 100 краінах, гэтае свята адзначаюць 5 кастрычніка. У Беларусі цяпер 3323 школы, у якіх працуюць 107 тыс. педагогаў. У Дзень настаўніка «Наша Ніва» прапанавала ўсім чытачам павіншаваць добрых настаўнікаў са святам. Друкуем тут самыя цікавыя з атрыманых водгукаў. І хай гэта бу-дзе напамінам вам: знайдзіце хвілінку і патэлефануйце свайму настаўніку або настаўніцы.



1 верасня ў гімназіі №23 у Мінску.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Віншую настаўнікаў роднай Ждановіцкай сярэдняй школы! Асабліва Ганчарыка Сяргея Мікалаевіча: дзякуючы Вам, фізіка стала захапленнем, а яшчэ б крыху і прафесіяй. А таксама Якаўлева Аляксандра Дзмітрыевіча, першыя крокі на мастацкім шляху былі менавіта з Вамі.

**Liola**

Асабліва хочацца павіншаваць былога дырэктара Крывіцкай школы Мядзельскага раёна Дубаневіч Эльвіру Канстанцінаўну. Гэта вельмі паважаны і справядлівы чалавек. Здароўя, шчасця, поспехаў у асабістым жыцці. Такіх талковых настаўнікаў і дырэктараў больш не даводзілася сустракаць у сваім жыцці. Якія разумныя, адданыя працы настаўнікі раней былі! Мы ганарымся, што нам у той час пашчасціла з настаўнікамі. Усе цудоўныя былі, успамінаем усіх вас толькі з цяплом і найвялікшай павагай, хоць і прайшло ўжо 40 гадоў пасля сканчэння школы.

**Крывіцкі**

Віншую Вольгу Уладзіміраўну Зуеву, настаўніцу расейскай мовы і літаратуры, якая выкладала ў Ліцэі БДУ ў нас у 2011/2012 вучэбным годзе (цяпер працуе на філфаку БДУ), якая ўсё расказвала вельмі цікава і з гумарам. Дзякуючы ёй я адкрыў для сябе свет расейскай літаратуры. Дзякуй вам за ўрокі!

**Ліцэіст**

Шаноўная спн. Ірына Дубянецкая! Вы адкрылі для мяне беларускую літаратуру. І няхай я ў жыцці займаюся зусім іншым, але я нясу ў сабе гэтую долю харавства.

**Іван**

Усіх выкладчыкаў Беларускага гуманітарнага ліцэя, у прыватнасці сп. Лявона Баршчэўскага, сп-ню. Валянціну Сіўковіч, сп. Уладзіміра Дзіско, сп. Уладзіміра Коласа, сп. Аляксея Крукоўскага, сп-ню Ірыну Сідарэнку, сп-ню Вольгу Дзядзюлю, сп. Міхася Тычыну, сп-ню Алену Леановіч, сп. Валянціна Тоўсціка, сп-ню Людмілу Марозаву і сп. Сядзяку — віншую са святам! Зычу трывалага здароўя, натхнення ў працы і ў жыцці. Вельмі Вам дзякую за выхаванне і веды.

**Франак Вячорка**

А я віншую настаўніцу гісторыі Канапацкую Святлану Мікалаеўну, бо, дзякуючы ёй, я паглядзела іншымі вачыма на Беларусь. Няхай зерне, што яна сее, падае на мяккую глебу і дае плод .

**Compass**

Аляксандр Маркавіч Фельдман, віншую вас са святам. Зычу вам моцнага здароўя і добрых вучняў. Вы настаўнік ад Бога.

**Аляксей**

Найбольш памятаю першую настаўніцу святой памяці Гурыновіч Ганну Іванаўну і настаўніцу роднай беларускай мовы і літаратуры, таксама спачылую Нагорную Марыю Іванаўну.

**Кс.Ігар**

Памятаю ўсіх сваіх школьных настаўнікаў (СШ № 27 Бабруйска), усе яны былі вельмі добрыя, але Тамара Сяргееўна Гардзіенка, настаўніца гісторыі, паўплывала на выбар прафесіі, за што ёй бязмерна ўдзячны.

**Сяржук Русецкі**

Сяргей Аляньковіч — настаўнік, які адкрыў для мяне гісторыю Беларусі, настаўнік на ўсё жыццё.

**Сава**

Віншую маму, Кухарэнка Наталлю Георгіеўну. Дзякуй! Я цябе люблю! Віншую настаўнікаў СШ №3 Любані. Дзякуй за цёплыя школьныя гады. Асобныя словы ўдзячнасці Захарык Валянціне Нічыпараўне і Верабей Галіне Фёдараўне. Праўда, я так і не навучылася пісаць прыгожа і па-руску без памылак не ўмею. Але ў школе было лёгка і цікава і нeяк шчыра.

**Настасся**

Таццяна Фёдараўна Анціпава, настаўнік матэматыкі СШ № 30 Магілёва, цяпер гімназія, са святам Вас!

**Дзіма**

Віншую Місюкевіча Андрэя Іванавіча — найлепшага настаўніка гісторыі! Спадзяюся, што ўбачыце гэты допіс. Дзякуй Вам за цікавыя заняткі.

**Р**

Найлепшых настаўнікаў Баранаву Аліну Васільеўну і Тулузава Міхаіла Васільевіча віншую з Днём настаўніка. Дзякуй за тое, што былі такія настаўнікі на жыццёвым шляху...

**BR**

Шаноўная спн. Мікула. Шчыра віншую Вас са святам. Дзякуй Вам за працу і адданасць прафесіі. За тую любоў да англійскай мове, якую Вы нам падарылі.

**Мікоя**

Найлепшых выкладчыкаў ПЦК беларускай мовы і літаратуры Казлоўскага Івана Іванавіча, Чэчат Алеся Віктаравіча і Лілію Пятроўну, Жукоўскую Вікторыю Іосіфаўну — са святам!

**Дар'я**

Шаноўны сп.Леўчук! Дзякуй вам за тое, што разумееце мае погляды і прышчапілі мне цікавасць да геаграфіі. Нашай краіне не хапае такіх настаўнікаў, як вы!

**Змагар**

А я хацеў бы павіншаваць сваю настаўніцу гісторыі Ніну Мікалаеўну Сямёнаву, СШ №2 Капыля! Гэты чалавек не толькі стварыў з мяне «гуманітарыя», але і кінуў зярнятка да беларускасці! Гэта першы і найлепшы НАСТАЎНІК у маім жыцці!

**Алег**

Віншую свайго сэнсэя Ляо Сіна! Ці па-сапраўднаму Гелясіна Аляксандра Яўгенавіча, няхай вам трапляюцца таленавітыя вучні і ў вас хопіць здароўя і часу, каб зрабіць з іх сапраўдных людзей...

**Залаты Джо**

Віншую спадара Салагуба Міхаіла Аляксандравіча са Смілавіч. Зычу яму здароўя і светлых дзён у яго жыцці. Для мяне ён быў не толькі настаўнікам , але і добрым Чалавекам. Наказы якога я яшчэ і сёння, праз 41 год, памятаю.

**Міхась Шэндзік**

Яшчэ раз віншую са святам Вераніку Чаславаўну Кушнярэвіч і Наталлю Янісаўну Вайніловіч, якія выкладаюць беларускую літаратуру і мову ў Ліцэі БДУ. Ведайце, што я вельмі, вельмі вас люблю!

**Ірына Х.**

Найлепшыя віншаванні майму брату з Мінска! Настаўнік матэматыкі, Верамеенка Віктар Георгіевіч, мой дарагі чалавек.

**Верамеенка Сяргей Мікалаевіч, Горадня**

Ад усёй душы хачу падзякаваць двум педагогам з Гродна — Яўленцевай Зінаідзе Уладзіміраўне і Мілашэўскай Святлане Яўгенаўне. ДЗЯКУЙ!

**Сан Саныч**

Віншую настаўніка беларускай мовы і літаратуры Максіменю Сяргея Фёдаравіча!

**Гімназіст**

Кавалеўская Ірына Лазараўна, са святам!

**gordeev85**

Шаноўныя настаўнікі Акадэміі мастацтваў, асабліва факультэта дызайну, са святам вас! Зычым натхнення, цярплівасці і таленавітых студэнтаў! Асаблівы дзякуй спадару Русецкаму! Дзякуй Вам за Вашу працу, Вы вучыце студэнтаў думаць, любіць і паважаць сваю краіну! Мы вас любім!

**Студэнты Акадэміі**

Алегу Міхайлавічу Вальфсону — за ўсё ў ножкі кланяюся: і за пернік, і за бярозавую кашу. Дзякуючы вам не шваль падзаборная, а чалавек.

**ЖС**

Шчыры дзякуй выдатнай настаўніцы рускай мовы і літаратуры Маладзечанскай СШ №10 Святлане Ігнацьеўне Юрэвіч!

**Міхаіл**

Спн. Грышанавай з сярэдняй школы № 15 Брэста падзякі і захапленне. Вы — узор!

**Выпуск 2000 года**

Дарагія, любімыя мае настаўнікі: Алена Уладзіміраўна Шыманская, Юлія Іванаўна Грачышнікава, Валянціна Пятроўна Крук, Рыва Якаўлеўна Зелікава, Галіна Усеваладаўна Васільева, Ірына Аляксандраўна Радзівонава, горача віншую вас з Днём настаўніка! Вы Настаўнікі з вялікай літары, дзякуючы вам я стала, спадзяюся, нядрэнным настаўнікам і чалавекам. Жывіце доўга і будзьце здаровыя!

**Таццяна Афоніна**

Віншую дарагіх, неймаверна цудоўных настаўнікаў!

Вікторыю Мікалаеўну, першую настаўніцу, Ліцэй №26 (гімназія-каледж мастацтваў), Вольгу Аляксандраўну, звышцудоўную настаўніцу мовы, Ліцэй №26 (гімназія-каледж мастацтваў), Карыну Аскераўну, настаўніцу СМК, гімназія №3, Таццяну Браніславаўну, настаўніцу англійскай мовы і жыцця, гімназія №3, Ірыну Уладзіміраўну, Таццяну Фёдараўну, настаўніц гісторыі, Марыну Міхайлаўну, Вераніку Чаславаўну, Алену Алегаўну, настаўніц моў ліцэя БДУ, Любоў Антонаўну, Вольгу Васільеўну, Алега Антонавіча і ўсіх нашых цудоўных выкладчыкаў гістфака. Мы шчаслівыя ў вас вучыцца. Дзякуй вам, што трацiце на нас сілы і дзеліцеся натхненнем. Мы пастараемся не падкачаць:)

**Пк**

Віншую сваю настаўніцу па гісторыі Алену Смоліч.

**Мікіта**

Віншую са святам усіх, каго ведаў, бо ўсе былі настаўнікамі ў нейкай ступені. Ну і асобна настаўніка матэматыкі Міхаіла Зелікавіча Левіна.

**Франак Нырка**

Віншую Яніну Аляксандраўну Пушкіну, майго настаўніка гісторыі і прынцыповага, чэснага чалавека. Зычу Вам здароўя і заўсёды прытрымлівацца сваіх прынцыпаў, нягледзячы ні на што.

**Alumen**

Віншую настаўніцу пачатковых класаў (цяпер 2 «А» клас) гімназіі №4 г.Мінска — Краўцову Наталлю Пятроўну — найлепшую настаўніцу, маці і жонку.

**Максім**

Віншую дарагую сястрычку, Марыну Мікалаеўну Уласаву, з прафесійным святам. Здароўя, моцы і натхнення!

**Настасся**

Шчырыя і самыя цёплыя словы падзякі хочам сказаць усім педогогам, якія дапамагаюць нам у выхаванні і адукацыі нашых дзяўчатак! Выхавальніца д/с №98 Гродна Анішчук Тарэса Алойзаўна, настаўніца пачатковых класаў гімназіі №1 Аўштоль Таццяна Міхайлаўна, настаўніца нямецкай мовы гімназіі № 7 Смольская Таццяна Мікалаеўна.Ваш прафесіяналізм і аўтарытэт усяляе ў дзіцячыя душы веру ў дабрыню і высакароднасць, дае старт у жыццё. Дзякуй за Вашу велізарную працу і за тое, што Вы ёсць!

**З Гродна**

Я хачу павіншаваць найлепшага настаўніка геаграфіі! Гэта настаўнік гімназіі №30, а раней — СШ №65 Мінска — Шандроха Андрэй Генадзевіч!

**Белы Валянцін**

Першая настаўніца Людміла Фёдараўна. Прышчапляла любоў да беларушчыны з першага класа. У 1997—1998 усім вучням класа падаравала выданне «Пра Герб і Сцяг» 1993-га, тады, калі ўжо гэта сімволіка была пад забаронай.

**Паша**

# Падарожжа вакол Зямлі.

Мінскі студэнт **Яўген Ціханаў** выправіўся ў кругасветнае падарожжа.



Яўген Ціханаў

Старажытны манастыр Хор-Вірап ля ўзножжа Арарата.

Мінскі студэнт другога курса кулінарнага тэхнікума Яўген Ціханаў разам з сябрам Раманам Свечнікавым выправіўся ў падарожжа вакол свету. Хлопцы плануюць ехаць праз Каўказ, трапіць у Іран, адтуль у Туркменістан або Індыю. Далей — Кітай, пасля Лаос, Аўстралія, Паўднёвая Амерыка, Мексіка. Адтуль — на Заходняе ўзбярэжжа Афрыкі і назад праз Еўропу. Падарожнікі вандруюць аўтастопам.

Помніш, газеты пісалі: «19-гадовы студэнт выпраўляецца ў кругасветнае падарожжа, маючы 500 баксаў»? Хлусня.

Калі я выпраўляўся ў падарожжа, у мяне было менш за 20 баксаў. Я паспяхова змарнаваў іх яшчэ ў Тбілісі: еў марозіва і хачапуры, ездзіў на фунікулёры. Парваліся мае джынсы, таму ў невялікім сэкандзе на ўскрайку горада я набыў новыя, а яшчэ маленькі заплечнік і кепку.

Калі я пакідаў Грузію, у мяне абсалютна не было грошай. Але я не думаў пра гэта, я чакаў ад армян гасціннасці, не меншай за грузінскую.

### «Не магу я цябе тут пакінуць, сэрца баліць!»

З'язджаючы з Батумі, раблю папулярную памылку: абіраю карацейшую трасу, а не галоўную. Калі падарожнічаеш аўтаспынам, мусіш рухацца па вялікіх трасах. Лепш праехаць на сотню кіламетраў больш, чым стаяць пасярод лесу на разбітай дарозе і дарэмна чакаць які трактар.

Стаю ля запраўкі больш за гадзіну, намагаючыся злавіць хоць што-небудзь. Нечакана спыняецца машына, што едзе ў зваротны бок. Кіроўца пытаецца, што я тут раблю ў такі час. Перапрашае, што паедзе ў Арменію толькі праз некалькі дзён, і едзе далей. Праз 50 метраў разварочваецца. «Слухай, а паехалі да мяне, пераначуеш. Што ты будзеш тут стаяць? Я жыву небагата, але для цябе месца знойдзецца. Не магу я цябе тут пакінуць, сэрца баліць!»

Армэн (кроўны армянін) жыве сапраўды небагата — у былым вайсковым гарадку ля грузінска-армянскай мяжы. Мае жонку Лусінэ і двух сыноў (14 і 16 гадоў), старэйшы хворы на сіндром Даўна. Хлопец хваліцца сваёй машынкай, просіць маці зварыць для мяне каву і наіўна-шчыра пытае: «Ты будзеш спаць разам са мной?» Мы вячэраем: боршч з сапраўднымі пампушкамі і тушаная капуста. П'ём каву. Армэн расказвае, як цяжка было са старэйшым сынам: толькі год таму тут адкрылі спецыяльную школу для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, дагэтуль усяму вучылі дома. Некалькі гадоў таму змаглі выправіць сына на Каляды ў Амерыку. Сям'я, у якой ён жыў, прапанавала пакінуць яго там, але бацькі не пагадзіліся: дома хоць і цяжка, але ж гэта сын, нельга так.

Калі ў цябе ёсць магчымасць, дашлі ім, калі ласка, паштоўку: Вайсковы гарадок 1, 475, кв. 9, г. Ахалкалакі, Грузія; Армэн і Лусінэ Азран.

Раніцай Армэн вывозіць мяне на шашу, дорыць на развітанне срэбны кулон, кажа: «Гара гару не сустракае, чалавек чалавека сустракае». Гэтае выслоўе пазней я буду чуць штодня — усе армяне жывуць згодна з гэтым прынцыпам.

### «Ці ты ўяўляеш сабе армяніна без грошай?»

Першая машына, якую лаўлю, вязе кавуны на продаж у памежныя вёскі. Мы едзем па вуліцах і ў вокны выкрыкваем «Лаў дзамерук, лаў дзамерук!» («добры кавун» па-армянску). Калі хто зацікавіцца, спыняем машыну і пачынаем гандляваць. Кіля каштуе каля $ 0,2, мы вязём тры з паловай тоны, сёння прадамо ўсё. Хлопцы прывезлі кавуны з Кахеці, самага плоднага рэгіёна Грузіі.

Стомлены гандлем, сыты кавунамі, пад вечар зноўку выбіраюся на шашу. Гэтым разам лаўлю машыну наўпрост да Ерэвана. Хуценька праходзім памежны кантроль і ляцім у сталіцу. Першае, што мне кажа кіроўца: «Вядома, паліцыя бярэ хабар, бо армяне надта любяць грошы. Ці ты ўяўляеш сабе армяніна без грошай?» Армяне звычайна — таленавітыя бізнэсоўцы.

### Водар нядбайнасці і беднаты

У Ерэван мы трапляем апоўначы. Мне паказваюць кіру-нак на цэнтральную плошчу. «Калі будзеш там заўтра — сустрэнемся. Мы там кожны дзень тусім», — кідае мне кіроўца праз акно і зрываецца з месца.

Іду да плошчы з надзеяй пазнаёміцца з кімсьці і знайсці «ўпіску» на ноч. Першыя знаёмыя аказваюцца маскоўскімі армянамі, яны нічым не могуць мне дапамагчы, але дадаюць важную інфармацыю: у Ерэване не праблема знайсці незамкнёныя дзверы на дах. Часцяком ліфты ў шматпавярховіках не працуюць, таму жыхары верхніх паверхаў падымаюцца на ліфце ў суседнім пад'ездзе і па даху пераходзяць у свой.

Я не губляю надзеі пераначаваць у кватэры і звяртаюся да людзей зноў і зноў, пакуль не натрапляю на двух маладых мастакоў. Яны спачатку доўга раяцца, а потым вядуць у хостэл «Ерэван» і, нягледзячы на мае пярэчанні, аплочваюць за мяне начоўку.

Цэнтр Ерэвана. Тыпова-савецкая забудова з лёгкім прысмакам армянскасці. Шырокія зялёныя вуліцы, вялікія двары, у якіх чаго толькі няма. Амаль на кожнай вуліцы ёсць фантанчык з чыстай вадой — «пулпулак». Тут выдатна адчуваеш пералом між азіяцкай беднатой і еўрапейскай заможнасцю.

У Ерэване я быў нядоўга. Ля выезда з горада мяне спыніў уладар маленькай крамы, прапанаваў адпачыць і выпіць халоднай кавы. Тым часам ля крамы спынілася машына і кіроўца пацікавіўся, куды я еду. Калі я сказаў «Хор-Вірап», высветлілася, што ён едзе туды ж і за невялічкую плату можа мяне падвезці. Каля хвіліны мы гандляваліся. Перамагла армянская гасціннасць — паехалі бясплатна. Армянскія машыны, дарэчы, на 95% працуюць на газе. Знайсці бензінавую запраўку тут — праблема.

### Хор-Вірап

Хор-Вірап («Глыбокая Дзірка» па-армянску) — манастыр ля гары Арарат. Пад манастыром у скале высечаная вязніца, у якой 15 гадоў правёў святы Рыгор Асветнік, перш чым у 301 годзе н.э. навярнуў цара Трдата III у хрысціянства. З таго моманту Арменія становіцца хрысціянскай.

Паводле Карскай дамовы 1921 гара Арарат адышла Турцыі, і цяпер я гляджу на гістарычны сімвал Арменіі праз краты.

Ля ўзножжа манастырскай гары стаўлю намёт і іду купацца — непадалёк ад гэтага месца ёсць закінуты адкрыты басейн, у якім плёскаюцца дзеці ўсіх навакольных вёсак.

Наступным днём еду на поўдзень, у царкву Нураванк. Царква стаіць у баку ад буйной трасы, пры канцы васьмікіламетровага Каньёна Стогнаў. Назву каньён атрымаў пасля таго, як шмат гадоў таму вулкан з землятрусам разбурылі тут горад. Каньён багаты на глыбокія пячоры, рэдкую флору і фаўну. Тут расце жоўтая шыпшына, фісташкі, водзіцца персідскі леапард.

**Арменія**

дзяржава на поўначы геаграфічнага рэгіёна Пярэдняя Азія і паўночным усходзе Армянскага нагор'я. Мяжуе з Азербайджанам і непрызнанай Нагорна-Карабахскай Рэспублікай (НКР) на ўсходзе. На паўднёвым захадзе з Нахічэванскай АР, якая ўваходзіць у склад Азербайджана. З Іранам на поўдні, з Турцыяй на захадзе і Грузіяй на поўначы. Не мае выхаду да мора. Плошча — 29743 кв.км. Насельніцтва — 3,2 мільёна чалавек. Сталіца — Ерэван.

**Нагорны Карабах**

гістарычна спрэчная тэрыторыя між Арменіяй і Азербайджанам. У 1987—1991 стала арэнай крывавага канфлікту, які прывёў да вайны між дзяржавамі.

Я хацеў спаткаць гэтага леапарда, таму крыху палазіў па гарах. Нікога не сустрэў. І дзякуй богу, бо, як пасля высветлілася, па гэтых гарах праходзіць мяжа Арменіі з Нахічэванню, азербайджанскім эксклавам. Тут рэгулярна хтосьці гіне.

### Фермеры з-пад Джэрмука

У такіх гасцінных краінах, як Грузія і Арменія, калі ты едзеш у машыне ноччу, то з верагоднасцю 80% цябе запросяць у госці. Так і адбываецца.

Хлопец жыве са стрыечнымі братамі і іх бацькамі ў вёсцы непадалёк ад Джэрмука, армянскай сталіцы мінеральнай вады. Сям'я трымае худобу на закінутай ферме ў гарах, ад 17.00 да 8.00 за жывёлай наглядаюць бацькі, ад 8.00 да 17.00 — дзеці. З імі наступным днём я і выпраўляюся на пасту. Цэлы дзень мы блукаем па гарах, пераганяем кароваў з месца на месца, сочым за авечкамі, якія хаваюцца ад сонца на другім паверсе закінутай будоўлі, катаемся на кані.



Руіны Агдама.

# Арменія

Грант, адзін з хлопцаў, расказвае мне армянскія легенды, гісторыю пакутаў гэтай некалі вялікай дзяржавы. І, ведаеш, што мяне здзіўляе і сароміць, — у гэтай краіне абсалютна любы чалавек, незалежна ад полу, веку і сацыяльнага статусу дасканальна ведае гісторыю Арменіі: кожную дату, кожнае месца, кожнае імя. Пятнаццацігадовы хлопец спяваў мне гістарычныя гімны, расказваў пра армянскіх цароў, шчыра адстойваў права называць адзін з колераў армянскага сцяга менавіта абрыкосавым, а не проста аранжавым.

Хлопцы абяцаюць паказаць мне незвычайную крыніцу з мінеральнай вадой. Па-першае, адтуль цячэ цёплая вада, па-другое — гэта ключ-пульсар: кожныя шэсць хвілін струмень узмацняецца і звычайная крынічка ператвараецца ў штось сярэдняе паміж джакузі і гейзерам.

Раздзяваемся да майткоў і лезем у ваду, б'ёмся за месца над гейзерам. Калі прыходзяць людзі, хуценька вылазім, бо Арменія — краіна кансерватыўная, чалавек у майтках тут успрымаецца як голы. Праз высокую канцэнтрацыю мінералаў і солі у вадзе скура пакрываецца белым налётам, які не змываецца яшчэ некалькі дзён.

## Наперадзе — Карабах

Выпраўляюся далей на поўдзень. Дзесь там — чаканы Карабах, але перад гэтым я мушу заехаць у места Татэў — там надзвычайнай прыгажосці горы, старажытны манастыр і самая доўгая ў свеце канатная дарога. Апошняя не ўразіла абсалютна. Яна была навюткай і абсалютна бяспечнай.

Праязджаю горад Горыс. Спраектаваны немецкім архітэктарам, зверху горад выглядае сапраўднай сеткай — усе кварталы аднаго памеру, усе вуліцы перасякаюцца пад прамым вуглом. Для мяне гэта не новае, але для мясцовых жыхароў — прадмет сапраўднага гонару.

За горадам пачынаецца дарога ў Карабах. Упершыню пра яго я даведаўся з кніжкі Рышарда Капусцінскага «Імперыя». У канцы 1980-х ён, пераапрануты ў пілота, нелегальна наведаў аблажаны Карабах. Рэгіён гэты падаваўся мне страшна небяспечным, штось нашкалт сучаснага Афгана. Але ўсё аказалася інакш.

Памежнікі пільна правяраюць дакументы. Хаця беларусам віза ў Карабах і не трэба, ты мусіш зрабіць спецыяльную акрэдытацыйную карту ў прадстаўніцтве Нагорна-Карабахскай Рэспублікі ў Ерэване або ў Сцепанакерце (сталіца НКР). Да Сцепанакерта ад мяжы — 50 кіламетраў серпанцінам. Мы на «Камазе» гэты адрэзак можам адолець за некалькі гадзін. Над цяснінамі там-сям перакінутыя металічныя тросы. Гэта было зроблена падчас вайны, каб варожыя верталёты, што хаваліся нізка ў цяснінах, заблытваліся турбінамі і падалі.

Калі спускаемся з гор, кіроўца пачынае засынаць. Рух на трасе ўзмацняецца, і я не ведаю, куды лепш выкручваць стырно — на сустрэчную ці пад адхон. Дзякуй богу, даязджаем без прыгодаў.

Назаўтра еду ў горад Шушы, што непадалёк ад Сцепанакерта. Там муры дагістарычнай крэпасці, дзясяткі напаўразбураных дамоў і тры мячэці, два з якіх рэстаўруюцца. Яшчэ адзін выразны акцэнт у армяна-азербайджанскім канфлікце. Армяне ніколі не разбураюць мячэці і азербайджанскія могілкі. Мячэць лічыцца святым месцам, ды і памерлых турбаваць не прынята.

## Руіны Агдама

Карабах — места, напоўненае вайной. Калі трапіў у горад Агдам, я аслупянеў. Стаяў пасярод горада, у якім некалі жыло 50000 жыхароў. Цяпер тут толькі руіны. Гэта — школа, у якой ніхто і ніколі больш не будзе вучыцца. Гэта — фантан, засохлы, разбураны, зарослы.

Адзіны ацалелы будынак у горадзе — мячэць. Можна падняцца на мінарэт, і тады руіны будуць бачныя да самага далягляду.



Хачкары — надмагіллі і ўнікальныя творы мастацтва.



«Маргарытка» — вадаскід 40-метровай глыбіні на сістэме водазабеспячэння Севанскага каскада ГЭС.

Я прыехаў сюды на машыне з вайскоўцамі. Яны просяць не шпацыраваць асабліва па горадзе, бо большая яго частка дагэтуль замініраваная. Дый тут няма чаго глядзець. Адной гільзы пад нагамі і ўзарванага фантана дастаткова. Я разварочваюся і збягаю. На выездзе з горада сядзіць бабуля і просіць грошы. «У мяне няма, — кажу я. — Але ёсць хлеб». «Давай. А ці ёсць вопратка?»

Ёсць у НКР і больш старажытныя руіны. Недалёка ад Агдама быў знойдзены старажытны горад, пабудаваны ў I ст. да н. э. армянскім царом Тыгранам II. Тут я знаёмлюся з Жорам, хлопцам, які ўвесь час свайго вайсковага адпачынку бавіць на раскопках у якасці валанцёра. Пасля войска ён збіраецца паехаць падарожнічаць на некалькі гадоў, каб зразумець, як уладкаваны гэты свет.

Шырокая даліна паміж невысокімі гарамі. Вадасховішча, кукурузныя палі. У гарах — сталкі кароў і авечак. На схілах там-сям — разбураныя азербайджанскія дамы з парэшткамі садоў. Армяне не карыстаюцца гэтымі руінамі, яны будуюць новае жытло побач. «Гэта чужое, — кажуць яны. — Мы возьмем гэтыя камяні для будаўніцтва новых дамоў, а на гэтым месцы ўзаром палі».

Я затрымліваюся тут на два дні і адчуваю, што гэта найлепшае месца на Зямлі.

## Унікальныя хачкары

Праз паўночныя горы я вяртаюся ў Арменію, да возера Севан. Зазіраю ў вёску Наратуз. Тут — старыя хрысціянскія могілкі, на якіх каля 800 хачкараў. Гэтыя старажытныя камяні-крыжы ўражваюць майстэрствам разьбы. Колькі ж часу чалавек павінен працаваць, каб зрабіць на камені такі вытанчаны і матэматычна вывераны арнамент!

Шкада пакідаць гэтую краіну, але я мушу ехаць у Іран — іранская віза хутка скончыцца, трэба спяшацца. У маёй памяці назаўсёды застанецца Карабах і безумоўная адданасць армян сваёй гісторыі, свайму народу — такая адданасць уласцівая закаханым, якія на старасці ведаюць на памяць кожную літару колішніх лістоў і моўчкі стаяць пад даўно пагаслымі вокнамі. Стаяць і чакаюць.



Ерэван.

« Гара гару не сустракае, чалавек чалавека сустракае

# Францыя змагаецца за адмену смяротнай кары ва ўсім свеце

Артыкул **Мішэля Рэнеры**, пасла Францыі ў Беларусі.



Пытанне адмены смяротнага пакарання ўсё часцей узнімаецца па ўсім свеце. На сённяшні дзень больш чым у 2/3 краін свету, а калі казаць дакладней, то ў 141 дзяржаве, не ўжываецца смяротная кара. У 97 краінах яна цалкам адмененая, яшчэ ў 8 дзяржавах не прымяняецца за агульнакрымінальныя злачынствы, а ў 36 краінах на смяротнае пакаранне накладзены мараторый. Колькасць краін, у якіх адмаўляюцца ад смяротнай кары як вышэйшай меры пакарання, павялічваецца. Ад пачатку 2012 года Манголія і Бенін ратыфікавалі Другі факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, накіраваны на адмену смяротнай кары. У ЗША яшчэ два штаты далучыліся да гэтага руху: у сакавіку Ілінойс, а ў красавіку Канектыкут. (Ён стаў сямнаццатым штатам, у якім не ўжываецца смяротнае пакаранне!) Разам з тым, ад 2011 года ў 23 краінах смяротныя прысуды былі прыведзеныя ў выкананне.

Дзесяцігоддзямі прыхільнікі і праціўнікі смяротнага пакарання актыўна абменьваюцца аргументамі «за» і «супраць». Мне здаецца, няма сэнсу паўтараць тое, што ўжо было тысячы разоў напісана. Калі казаць асабіста пра мяне, то, на мой погляд, гэта пытанне сумлення. Калі правасуддзе выкарыстоўвае тыя ж метады, што і злачынцы, гэта не ўзвялічвае чалавецтва. З пазіцыі хрысціяніна, для якога жыццё — гэта найвышэйшы дар ад Бога, ніхто і ні пры якіх абставінах не мае права яго адымаць. Паўтараю, ніхто і ніколі.

Падзеі найноўшай гісторыі паказваюць, што існаванне смяротнага пакарання ніяк не ўплывае на намеры злачынцаў здзяйсняць самыя гнюсныя і агідныя злачынствы. Беларусы гэта выдатна ведаюць. Амерыканцы таксама ніколі не забудуць 11 верасня 2001.

Летась у Марока, краіне, дзе ўсё яшчэ ўжываецца смяротнае пакаранне, быў здзейснены тэрарыстычны акт. Ён забраў жыцці васьмі французаў. Аднак сем'і пацярпелых папрасілі ў мараканскага правасуддзя не ўжываць вышэйшую меру пакарання.

Сёлета Францыя вырашыла запусціць шырокамаштабную кампанію па барацьбе за адмену смяротнага пакарання. Яна будзе асабліва актыўным гульцом на міжнародных форумах, у тым ліку пад эгідай ААН, а таксама ў рамках V Сусветнага кангрэса супраць смяротнага пакарання, які пройдзе ў Мадрыдзе ў чэрвені 2013. Выкарыстоўваючы кожную магчымасць, пры сумесных кансультацыях з еўрапейскімі партнёрамі Францыя будзе праводзіць мерапрыемствы, скіраваныя на прыцягненне да гэтай праблемы ўвагі насельніцтва і палітычных кіраўнікоў. Галоўная мэта амбітная і ясная: адмена смяротнага пакарання ва ўсім свеце.

# Пра школьны падручнік англійскай мовы: абы-які і з памылкамі

Даведаўшыся пра забарону «Гродназнаўства» — падручніка, напісанага прафесіяналамі, людзьмі адданымі сваёй працы, не магу не пракаментаваць сучаснае становішча нашых падручнікаў.

Нядаўна свет пабачыў падручнік для 11 класа па англійскай мове — кніга, якая «ўражвае» з першых старонак. Папершае, сярод складальнікаў людзі, якія не працавалі ні дня ў школе, некаторыя і ўвогуле з'ехалі за мяжу і не маюць дачынення да нашай сістэмы адукацыі.

У падручніку з першых старонак сустракаюцца граматычныя памылкі (to appereciate the most, замест to appreciate most; to be grateful parents, замест to be grateful to parents і г.д.) [с. 4-5]. Трэба адзначыць, што 11-му класу трэба здаваць іспыт па мове напрыканцы года.

Памылкі граматычныя яшчэ не так страшна, як змест самаго падручніка. Першы раздзел прысвечаны сям'і, падбор тэкстаў проста абы-які — сямейны разлад, тэкст пра бабулю, якая вельмі любіла курыць, парады дарослым, як трэба выхоўваць дзяцей (тэксты павінны былі быць, наадварот, для дзяцей). Апошняе яшчэ і прадугледжана праслухаць, але аўдыёзапісаў няма (затое адна з частак іспыту — успрыманне мовы на слых).

Тэматыка тэматыкай, але пытанні для дзяцей накшталт «У вашай сям'і хтонебудзь паміраў? Як вы сябе адчувалі?» [с.6] не лезуць ні ў якія рамкі. Я не разумею, як могуць дарослыя людзі напісаць такое дзецям.

Пра памылкі этнаграфічныя, калі блытаюць раён Нью-Ёрка Гарлем з Брадвеем [с.157], нават не варта і казаць.... На беларускай мове падручнік не выйшаў (але ў маім класе ёсць дзеткі, якія навучаліся па-беларуску да 10-га класа, і нам было б цікава пабачыць беларускамоўную версію).

**Марыя Кункевіч**

**Учебное пособие «Английский язык. 11 класс» Авторы: Юхнель Н.В., Наумова Е.Г., Демченко Н.В., Андрианова В.Б., Преснякова Н.А., Родовская Е.А., Тихончук О.В. — Минск: Выш. школа, 2012.**

# Журавінавы смак пані Восені

## Верш у прозе

...Раней, у дзяцінстве-юнацтве, любіў лета.

У дарослым жыцці ўпадабаў восень. За яе сцішанасць-памяркоўнасць, скупое восеньскае (ведае сабе цану напярэдадні хуткіх зімовых халадоў!) сонейка...

А хіба можна з чым параўнаць жоўта-аранжава-чырвоныя, залатыя сполахі восеньскага лесу!..

Седзячы на пяньку пасярод бруснічнай паляны (сам калісьці выведаў-знайшоў гэтае месца), сочыш, як плывуць аблокі-хмары. Вецер сваволіць — абсыпае сухою ігліцаю (здалёк — нібы снежны крупы сыплюцца).

На лясной сцяжыне шмат-шмат слядоў ад капыточкаў маленькіх дзічкоў-парасятак — відаць, вярталіся гэтай дарогай з начной вылазкі на ўжо ўбраныя бульбяныя палеткі ля вёскі...

Недалёка ад маёй бруснічнай паляны на балоце, што завецца Гарэлым, ладны лапік журавінаў на купінах. Буйныя, спелыя...

Балота сёлета сухое, вады нямашака нідзе, дзікі рыюць паміж купінамі з багуном і дурнічнікам — шукаюць хоць гразі... Купіны нібы ўсыпаныя ягадамі — ірдзеюць у густой пажоўклай траве, на высахлым і таму бялёсым моху.

.. Лясное балота. Пішу, седзячы на паваленай сухастойнай хваіне, пасярод гэтага княства лясных зьвяроў: дзікоў, зайцоў, ласёў, сярод водару багуну, пад спевыціўканне цікаўных птушак, што сочаць за гэткім няпрошаным госцем...

Ураган нахіліў высокую хвою, ледзь не паваліў. І ўпала б гаротніца, але, як ляцела, зачапілася за сяброўку (бадай, аднагодку), ударам знесла-зламіла той вярхушку дый жыве-расце сабе. А тая хваіна, што ўратавала яе, усохла. Вось як здараецца... Рыпіць-скрыпіць памерлая сястра пад цяжарам той выжыўшай хваіны...

**Юрась Півуноў, Магілёў**

# Беларуская глыбіня. **Бяляцкі**

Піша **Павел Севярынец**.

*...І асвяціце пяцідзясяты год,*
*і абвясціце свабоду на зямлі*
*ўсім жыхарам яе:*
*хай будзе гэта ў вас юбілей.*
*Лявіт 25:10*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Галасаваў я ўпершыню ў жыцці менавіта за Бяляцкага.

Улетку 1994, калі ўся наша сям'я пазначыла ў бюлетэнях выбараў першага прэзідэнта Зянона Пазняка, мне было толькі сямнаццаць з паловай. А ў 1995, на выбарах у Вярхоўны Савет, наш студэнцкі інтэрнат насупраць Палаца спорту апынуўся ў акрузе Бяляцкага. Геолагі-першакурснікі БДУ, мы самі змайстравалі бел-чырвона-белы сцяг і пайшлі на сустрэчу з кандыдатам у сквер на Пляцы Волі. Тады для нас, захопленых студэнтаў, гэты малады і снежна-сівы, сціплы і ў той жа час поўны ўнутранага гонару *фронтавец* увасабляў само Адраджэнне.

Потым на Соймах, у Музеі Багдановіча, на мітынгах Вясны-96 і ўрэшце ў «Вясне» ягоная нешматслоўная дзелавітасць і прастасць толькі пераконвалі: у эпоху незалежнасці хіба з Бяляцкага і варта было пісаць карціну «Беларус».

Гэта ён, дэпутат Мінгарсавета, першым занёс на сесію бел-чырвона-белы сцяг, каб узняць яго на Плошчы Незалежнасці. Гэта ён у 1990 згуртаваў Беларускую Грамаду — рух, што спрыяў беларусізацыі Касцёла. Гэта ён узначаліў Літаратурны музей Багдановіча ў Траецкім — сталічны культурны агмень, з якога многія супрацоўнікі пасля перайшлі ў «Вясну».

Бяляцкі цярплівы. Гаворыць рэдка, нягучна, але цвёрда, асабліва не ўгаворвае ды не перапытвае. Сказаў — далей думай сам. Бяляцкі спакойны. Раздражнёным, у гневе, пакрыўджаным бачыць яго не даводзілася. Бяляцкі *белы* — бездакорна сівыя хвалістыя валасы толькі падкрэсліваюць рэпутацыю.

Памятаю, на фронтаўскіх Соймах Бяляцкі выступаў рэдка, больш слухаў і, як ад зубнога болю, моршчыўся кожнага разу, калі чуў пафас, амбіцыю ці фальш. Па-беларуску не выпінаўся, а рабіў, рабіў, рабіў...

І зрабіў.

«Вясна», створаная Бяляцкім, цяпер насамрэч — адзін з найбольш трывалых і жыццяздольных арганізмаў падтрымкі незалежнага грамадства. Рэдкая сярод беларусаў агульнанацыянальная талака дзеля дапамогі ў бядзе сапраўды незаменная. Перадачы вязням, падтрымка сем'яў, аплата адвакатаў у палітычных справах — Бяляцкі займаўся тым будзённым ды надзённым клопатам, трываласць і спор якога вызначае моц паняцця «Салідарнасць».

Заходні свет таму і патрабуе хорам вызвалення Бяляцкага, бо ведае кошт маральнай салідарнасці, стагоддзямі выхаванай у еўрапейцаў Касцёлам ды Дамамі малітвы.

Якраз на 50-ты дзень народзінаў Алеся мне ў камендну, на агульны таксафон, патэлефанаваў колішні куплінскі «хімік», які паехаў ад нас на бабруйскую «зону» і перасёкся там з Бяляцкім. Бяляцкаму там цяжка. Чапляюцца да любой дробязі, пазбаўляюць спатканняў, перадачаў... «Усе ведаюць, што мужык, што церпіць за праўду, — казаў суразмоўца, — але, сам разумееш: толькі падыдзеш парай словаў перакінуцца — у атрадзе выдзернуць і апрацуюць».

У «зоне» Бяляцкі вырабляе міліцэйскія пагоны. Думаю, шмат хто з ягоных турэмшчыкаў здагадваецца: знак. Лёс іхніх «зорачак» неўзабаве будзе вызначацца тым, праз чые рукі яны прайшлі.

«Час цяпер такі, што праваабаронцу самае месца ў турме» — напісаў Алесь у адным са сваіх лістоў.

Час... І вось сустракае ў «зоне» Бяляцкі сваё 50-годдзе. Юбілей. Першакрыніца паняцця *юбілею* — Біблія, кніга Лявіт, дзе ідзецца пра святарства і асвячэнне: на пяцідзясяты год кожны з выбранага Богам народа мусіў вяртацца ў сваё валоданне і вызваляць прададзеных у рабства. Каб юбілею вызвалення ўрэшце дачакаўся ўвесь народ — камусьці дадзена лічыць гэтыя гады. Дзень пры дні. Самотна.

У апошнім лісце, датаваным якраз днём свайго юбілею, 25 верасня, Алесь згадвае: «Жыццё, як ранішні туман... Сцелецца па лагах, то гусцее, то рвецца на камякі, а як пачынае днець — танчэе, мадзее і знікае ўрэшце. І застаецца ад яго пару кропель расы, а потым і яна высыхае. Марнасць марнасцяў, рэха ў бясконцасці, крык птушкі нябачнай...»

Амаль Эклезіяст.

І менавіта гэтым туманам пачынаецца вечнасць, которая нас чакае і вымяраецца ўжо не гадамі.

Бяляцкі, праз якога ў пару «Вясны» дапамогу атрымалі тысячы пераследваных беларусаў, цяпер сам у турме і мае патрэбу ў салідарнасці. Закон жыцця. Зараз беларускае нацыянальнае адраджэнне жыве цярпеннем і пакутай за ўвесь народ.

Але без гэтага шлях да вызвалення беларусам не прайсці — і каталік Бяляцкі гэта цудоўна ведае.

Бо менавіта так, дарогаю дапамогі людзям, трыванняў і болю да збавення ад зла, да праўды і любові, да перамогі над гвалтам пад белым-белым сцягам з крываваю паласой калісьці праз Свайго Сына прайшоў па гэтай зямлі Сам Бог.

*Куплін*

**Жыццё, як ранішні туман... Сцелецца па лагах, то гусцее, то рвецца на камякі »**

# Казка пра Караля, які страшна любіў пісаць

**Ва ўсёй дзяржаве не засталося ніякіх кніг, апроч тых, што напісаў кароль. Казка Алены Масла.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Адзін Кароль *страшна* любіў пісАць. Не важна, што: вершы або прозу. Не істотна, чым: алоўкам, асадкаю, друкаваць на машынцы, набіраць тэкст на камп'ютары — усё адно! Каралю падабаўся сам працэс. Таму аловак ён вастрыў адмыслова, чарніла і паперу набываў найлепшыя. На друкавальнай машынцы грукацеў так, што асобам, набліжаным да каралеўскага двара, вушы закладала. Калі ж стаў карыстацца камп'ютарам, электрасетка не вытрымлівала яго жарсці і ў замку выбівала ўсе чыста засцерагальнікі.

Створанае ўпартай працай Кароль беражліва складаў у шматлікія шуфлядкі вялізнага пісьмовага стала. Калі ж здараўся ў яго кепскі настрой, даставаў напісанае і цешыўся як дзіця. Аднак пільнаваў, каб староннае вока не ўгледзела, што ж ён там піша — быў не вельмі ўпэўнены ў сваёй творчасці і бянтэжыўся называцца пісьменнікам.

Але аднойчы, калі каралеўскі замак у чарговы раз застаўся без святла, Каралю давялося ісці ў суседні пакой па свечкі. Нешта ён там забавіўся даўжэй, чым трэба. Калі ж вярнуўся ў кабінет, электрычнасць ужо ўлучылі: каралеўскія электрыкі добра ведалі, як дзейнічае на электрасетку каралеўскае натхненне і заўсёды былі гатовыя да надзвычайных выпадкаў.

Дык вось, Кароль крыху забавіўся ў суседнім пакоі. А якраз у гэты момант без папярэдняга даклада ў каралеўскі кабінет зайшоў Міністр, адказны за гадоўлю каралеўскіх парсючкоў. Ён трымаў у руках лісты, спісаныя Яго Вялікасцю — і слёзы замілавання ручаямі цяклі па яго ружовым твары.

Кароль не паспеў угневацца на тое, што ходзяць тут без дазволу розныя, чытаюць тое, што ім не належыць. Міністр апярэдзіў Караля! Прыціснуўшы да грудзей паперы, ён кінуўся насустрач і загаласіў:

— Ваша Вялікасць! Нельга, нельга так абыходзіцца са сваім народам! Нельга так абкрадаць сваіх падданых! Нельга губіць асвету ў нашым краі!

Каралю непамысна зрабілася — ён ад разгубленасці скеміць не мог, што ж такое ён утварыў: ці не той дзяржаве чарговую вайну абвясціў, ці не з той памірыўся.

— Кароль не павінен хаваць гэтыя шэдэўры, гэты цуд генія ад свету! — выгукнуў Міністр і бухнуўся Каралю ў ногі разам з рукапісам, на якім буйнымі літарамі было выведзена «ПАКУТЫ КАХАННЯ».

Кароль пачухаў патыліцу, ссунуў карону набок. Прыемнасць разлілася па ўсім яго целе і асела чырванню на запунсавелых шчоках: ён урэшце зразумеў, што гаворка вядзеецца пра яго творчасць! Манарх нават расхваляваўся, бо дагэтуль не ведаў, як хораша, калі тваю творчасць хваляць.

— Дык вам, шаноўны Міністр, ГЭТА падабаецца? — на ўсялякі выпадак перапытаў Кароль.

— Нічога лепшага ў сваім жыцці не чытаў! — запэўніў Міністр.

Па шчырасці, усё сваё жыццё ён чытаў і перачытваў толькі адну кнігу — «Дапаможнік у гадоўлі парсючкоў» — і ведаў яе ўжо назубок. Але ніхто яго гэтым не папікаў — не пра Міністра ж культуры гаворка! Тым больш што зацятае вывучэнне адзінага, але найбольш поўнага дапаможніка толькі спрыяла росту свінагадоўлі ў каралеўстве.

— Калі ж мой Кароль мне не верыць, хадземце да прыдворных дамаў. Няхай яны паслухаюць і ацэняць вершы! — працягваў захоплены Міністр і рынуўся ў тронную залу, дзе бавіліся дамы ў чаканні свайго валадара.

Міністр з парога абвясціў:

— Кароль, наш правіцель, піша найлепшыя ў свеце вершы! Слухайце, падданыя, з цудоўнейшай кнігі «Пакуты кахання»!

Я цібя ўвідзел і знямеў,
Сэрца стала часта-часта біцца.
Як, скажы, мне жыць далей,
Мо пайсці і з гора ўтапіцца?

Канечне ж, знаўца адразу скеміць, што ў гэтых вершаваных радках паэзіі ні на грош, багата памылак. Трэба было пісаць «цябе» і «ўбачыў», гэта відавочна. Але ж хто рашыцца ўказваць на памылкі самому Каралю? Тым больш што дамы, пачуўшы вершы пра каханне, напісаныя каралём, самотным удаўцом, адразу ж кінуліся разгадваць, ці не адна з іх дама каралеўскага сэрца.

Я ў цябе ўлюбіўся,
Пра ўсё на свеце забыўся.
Цяпер раву як бялуга,
Што мы не відзім друг друга…

— дэкламаваў Міністр далей, і прыдворныя дамы ажно стагналі. Гэтае «з гора ўтапіцца» і «раву як бялуга» натхняла і ясна паказвала, што і каралеўскай асобе ўласцівы самыя звычайныя чалавечыя пачуцці. А памылкі — ат, дробязь! — толькі набліжалі Караля да простага народа.

— А-а-а! — млелі ад захаплення дамы, грымелі апладысменты, а Кароль, які дагэтуль хаваўся за дзвярыма, выйшаў да ўдзячнай аўдыторыі і, трошкі збянтэжаны, кланяўся направа і налева.

Пасля такога ашаламляльнага дэбюту Радай каралеўскіх міністраў было вырашана выдаць Збор твораў Яго Вялікасці. А што там лічыцца! Паперы ў каралеўстве хоць гаць гаці, друкарні — свае, мастакі — прыдворныя, зараз аздобяць кнігі. Трэба толькі прыдумаць, хто будзе апекавацца іх выданнем, стане Міністрам прыгожага пісьменства. Прызначылі — і гэта зразумела — Міністра па гадоўлі парсючкоў: адкрыццё каралеўскіх шэдэўраў належала яму.

Перайшоўшы са свінарніка на новую пасаду, Міністр так шчыра ўзяўся за працу, што пыл клубеў з-пад ягоных ног. Вялікі наклад Першага збору каралеўскіх твораў ён хуценька ўладкаваў ва ўсе хаты каралеўства, збыў за адзін дзень — і Кароль канчаткова ўвераваў у геній свайго пісьменніцкага таленту.

Міністра тут жа ўзнагародзілі Залатым гарбузом — найвышэйшым знакам каралеўскай прыхільнасці. Да таго ж з проста Міністра прыгожага пісьменства перавялі на пасаду Першага.

З таго часу і пайшло-паехала. Ахвотныя прасунуцца па службе адразу скемілі, што трэба хваліць творы Караля — гэта відавочна паскарала службовы рост. І вось праз некаторы час ва ўсёй дзяржаве не засталося ніякіх кніг, апроч тых, што напісаў кароль: каб не было з чым іх параўноўваць, іншыя проста знішчалі.

Міністры і прыдворныя, дзеці ў школах і дарослыя на службе, гараджане і вяскоўцы чыталі каралеўскія творы. Да ўсяго, на знак захаплення імі пры сустрэчы падданыя каралеўства мусілі вітацца рохканнем: такі быў выдадзены загад. Першы міністр цешыўся гэтай прыдумцы, рохканне лашчыла яго слых — згадаем, што службу сваю ён пачынаў на свінарніку.

Так мінаў год за годам. Кароль шчыра верыў у тое, што казалі служкі, і таму пісаў з усё большай жарсцю. Раслі наклады яго кніг, а ў падданых ад бесперастаннага рохкання спачатку пачалі адрастаць лычыкі, а з часам з'явіліся і пакручастыя хвосцікі. А пасля і хадзіць яны сталі на кукішках, сагнуўшыся — так зручней было рохкаць...

Неяк Каралю захацелася паглядзець, што дзеецца ў яго землях. Ён сеў на каня і выправіўся ў вандроўку па каралеўстве адзін: ён лічыў, што самота спрыяе філасофскім роздумам. Яго Вялікасць дзівіўся вялізарнай колькасці свіней, якіх сустракаў паўсюль, куды б ні прыехаў. Да таго ж свінні гэтыя былі незвычайнай пароды, бо вонкава крыху нагадвалі людзей.

Што за дзіва? Кароль шукаў, з кім пагаварыць пра гэта, перакінуцца словам — але адусюль да яго даносілася толькі рохканне.

Кароль спешыўся, сеў на вялізны валун пры дарозе і стаў думаць, што б магло ўсё гэта значыць.

Кажуць, да гэтай пары сядзіць, думае.

Свінні ж тым часам рыюць зямлю лычамі, каб задуменнаму Каралю як мага даходлівей сваю прыхільнасць выказаць, і землі каралеўства ўсё больш становяцца падобнымі да суцэльнай раллі.

Першы Міністр налюбавацца не можа на Залаты гарбуз і не маркоціцца, што даўно не чуў чалавечай гаворкі: паўсюднае свінячае рохканне для яго і ёсць паказчык пашырэння асветы ў тым каралеўстве.

**Алена Масла**

нарадзілася ў 1967 у вёсцы Мілашова Мёрскага раёна Віцебскай вобласці ў сям'і настаўнікаў-філолагаў. Скончыла факультэт журналістыкі БДУ (1989). Працавала у газетах «Піянер Беларусі», «Туризм и отдых», «Переходный возраст».

З 2006 года — загадчык рэдакцыі дзіцячай літаратуры выдавецтва «Мастацкая літаратура». Піша казкі. Аўтар кніг «Рождество у крёстной» (2005), «Таямніца закінутай хаты» (2005), «Вандроўка з божымі кароўкамі» (2007) ды іншыя. Маці дарослых дзяцей.

# Беларусь — Іспанія

**12 кастрычніка на стадыёне «Дынама»** адбудзецца сустрэча зборных Беларусі і Іспаніі. Нашы каманды ў адной групе адбору да чэмпіяната свету. Сённяшняя Іспанія — каманда №1 у свеце. Яны выйгравала апошнія чэмпіянат свету і Еўропы (двойчы). За іспанцаў гуляюць такія майстры мяча, як Хаві, Ін'еста, Касільяс, Торэс. Білеты на гульню, праўда, можна купіць толькі у пакеце з матчам з Грузіяй, які адбудзецца 16 кастрычніка. Пачатак матча з Іспаніяй а 21:00. Пакеты каштуюць ад 300 да 480 тысяч рублёў. Праўда, многія фанаты зборнай з групоўкі Б-12 збіраюцца байкатаваць матч, бо федэрацыя не робіць нічога, каб палепшыць умовы на стадыёне, а таксама праз неабгрунтаваную жорсткасць аховы.



PHOTO.BYMEDIA.NET

## ФУТБОЛ

### Перенесены матч

**Каманды, што гулялі ў еўракубках,** аддаюць даніну календару. «Гомель» 15 кастрычніка правядзе прапушчаны матч 19 тура з бабруйскай «Белшынай».

## ХАКЕЙ

### Едзе «Віцязь»: быць бойцы

**17 кастрычніка на «Мінск-Арэне»** з мясцовым «Дынама» сустрэнецца падмаскоўны «Віцязь». Гэтая каманда вядомая сваімі байцамі (тафгаямі). Падчас жнівеньскага Кубка Салея капітан «Дынама» Еры Каралахці траўмаваў лідара «Віцязя» Панарына. Цяпер «віцькі» абяцаюць помсту. Гледачам такі піяр падабаецца. Пачатак а 19-й.

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Енісей»

**Пачынаюцца матчы ў турніры Адзіная ліга ВТБ.** 11 кастрычніка мінскія «Цмокі» прымаюць краснаярскі «Енісей». Гульня пройдзе на «Мінск-Арэне». Білеты — 25 — 45 тысяч рублёў.

## ІМПРЭЗЫ

### Бардаўская восень

**З 26 па 28 кастрычніка ў Бельску-Падляшскім, Беластоку, Шчытах-Дзенцялове** пройдзе Фестываль беларускай бардаўскай ды аўтарскай песні «Бардаўская Восень-2012».

Бяруць удзел Лявон Вольскі, Зміцер Вайцюшкевіч і W-Z Orkiestra, Віктар Шалкевіч, Bosae Sonca, ILO & Friends, Паліна Рэспубліка ды Алег Кабзар.

Падрабязную праграму «Бардаўскай восені» можна глядзець на www.vosien.org.





### Беларуская пасцілка

**У «Музеі беларускага народнага мастацтва» ў Раўбічах да 30 лістапада** працуе выстава «Беларуская пасцілка», на якой можна ўбачыць цудоўныя ўзоры дэкаратыўных даматканых тканінаў.

### Слінгасвята

**Запрашаем бацькоў на вялікае слінгасвята. 13-га кастрычніка з 11 да 16 у «Лофт кафэ» (Броўкі, 22).** Вас чакаюць лекцыі, кансультацыі, кірмаш. Т.: (029) 784-63-13 (МТС), (029) 911-78-87 (Vel.).

## КАНЦЭРТЫ

### «Палац» — 20 гадоў»

**26 кастрычніка а 19-й у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі (Крапоткіна, 44)** — «Палац» — 20 год». Гурт прадставіць традыцыйныя беларускія песні і аўтарскія працы, што створаны паводле фальклорных легенд, абрадаў, паданняў.

### Разбітае сэрца пацана

**14 кастрычніка а 18-й у «Мулен Руж» (Кальварыйская, 1)** — «Разбітае сэрца пацана».

### Людзі на балоце

**17 кастрычніка а 19-й у Loft cafe (П.Броўкі, 22)** — гурт «Людзі на балоце» з прэзэнтацыяй дэбютнага альбома. Спецыяльны госць — гурт Pomidor/off.

### ДзіДзюЛя

**20 кастрычніка а 19-й у к/з «Мінск»** — ДзіДзюЛя разам са сваім гуртом у шоу «Музыка Сонца».

### Crivia Aeterna

**21 кастрычніка а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — выступае італьянскі кампазітар Масіма Магрыні са сваім праектам Bad Sector, а таксама шведскі майстра эмацыйнага dark ambient Ёхан Левін з праектам Desiderii Marginis.

### Scorpions

**21 кастрычніка а 19-й на «Мінск-Арэне»** — Scorpions. Наведвальнікаў чакае шоу, якое не з'яўляецца паўторам аніводнага з папярэдніх канцэртаў Scorpions.

### Усё гэта — фламенка

**19 кастрычніка а 19-й у к/з «Мінск» (Маркса, 12)** — тэатр фламенка Томаса дэ Мадрыд з праграмай «Усё гэта — фламенка».

## ВЫСТАВЫ

### Старонкі гісторыі

**Да 25 кастрычніка ў Гістарычным музеі** працуе выстава плаката Уладзіміра Крукоўскага «Старонкі гісторыі». У цэнтры ўвагі Уладзіміра Крукоўскага — Беларусь, яе гісторыя і культура, яе сённяшні дзень і заўтрашні лёс.

### Піліп Орлік

**Да 15 кастрычніка ў Гістарычным музеі** працуе выстава «Піліп Орлік — аўтар першай украінскай канстытуцыі», прысвечаная 340-годдзю з дня нараджэння Піліпа Орліка — гетмана, аўтара першай канстытуцыі Украіны, якая была напісана за некалькі дзесяцігоддзяў да амерыканскай канстытуцыі 1807 года, канстытуцыі 3 мая 1791 года Рэчы Паспалітай і французскай канстытуцыі 3 верасня 1791 года.

## ТЭАТРЫ

### 12 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Лялек** — «Гісторыя аднага горада»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

### 13 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»
**Юнага гледача** — «Крыху пяшчоты»

### 14 кастрычніка

**Лялек** — «Жудасны спадар Ау»
**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Оперы і балета** — «Сільфіда»

### 15 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Дастаеўскае пытанне»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 16 кастрычніка

**Лялек** — «Чайка. Вопыт прачытання»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»

### 17 кастрычніка

**Оперы і балета** — «Эсмеральда»
**Купалаўскі** — «Translations»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 18 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Дзённік пэата (Інтымны дзённік)»
**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Купалаўскі** — «Сымон-музыка»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»

### 19 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Оперы і балета** — «Баядэрка»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 20 кастрычніка

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Прыгоды Пін-Піна»
**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»

### 21 кастрычніка

**Лялек** — «Кот у ботах»
**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Беларускай драматургіі** — «Стойкі алавяны салдацік»
**Беларускай драматургіі** — «Сёстры Псіхеі»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

### 23 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — «Ка-ласы пад сярпом тваім»
**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»

## КІНО

### Пастка для Рычарда Гіра

**Заганная жарсць** (Arbitrage)
ЗША, 2012, каляровы, 107 хв.
**Рэжысёр:** Нікалас Джарэкі
**Ролі выконваюць:** Рычард Гір, Сьюзан Сарандон, Цім Рот, Брыт Марлінг, Летыцыя Каста, Нэйт Паркер
**Жанр:** Драма
**Адзнака:** 6 (з 10)

Роберт Мілер — мільярдэр, які бавіць час з жонкай і палюбоўніцай. Грошы ліпнуць да Мілера, але справы зусім не бліскучыя. Калі герой заснуў за стырном машыны, пайшоў звароты адлік.

Стужка Нікаласа Джарэкі — стрыманая фінансава-дэтэктыўная драма, дзе пад музыку Кліфа Марцінэса герой Рычарда Гіра метадычна заганяецца ў пастку. Падцягнуты Рычард Гір і хітрая Сьюзан Сарандон, якія ўжо гралі сямейную пару, сустрэліся ізноў на здымачнае пляцоўцы. У фільма свая атмасфера і свой ахайны акцёрскі стыль, дзеля якога варта глядзець карціну.

**Андрэй Расінскі**



# Такога яшчэ не было: 21 кніга Скарыны выстаўленая ў Мінску

Дыямент выставы — нядаўна знойдзенае ў нямецкім Гёрліцы **выданне Біблії**.

4 кастрычніка ў Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі пачалася выстава кніг Біблії, выдадзеных Францыскам Скарынам у 1517—1519 у Празе. Найкаштоўнейшы яе экспанат — нядаўна знойдзены канвалют з 11 кніг Біблії, які прывезлі з Германіі. Гэтая выстава рыхтавалася некалькі гадоў і стала магчымай, дзякуючы дапамозе Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія.

### Нечаканая знаходка на паліцы

Нямецкае выданне Скарыны знайшлі выпадкова. Канвалют гадамі стаяў на паліцы ў Верхнялужыцкай навуковай бібліятэцы ў нямецкім Гёрліцы. Ён не выклікаў увагі даследчыкаў, бо створаны на славянскай мове.

У 2003 у Гёрліцы вырашылі арганізаваць выставу Біблій. Акурат гэта быў Год кнігі ў Германіі. «Выбраўшы некалькі выданняў часоў Лютэра, лонданскую шматмоўную Біблію 1657 і экзэмпляр надрукаванай у 1759 у Маскве Елізавецінскай Біблії, мы пачалі ўважліва вывучаць старыя рукапісныя каталогі, часткова складзеныя яшчэ ў XVIII стагоддзі, — расказвае дырэктар Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі Маціас Венцэль. — Адзін з запісаў быў такі: «Біблія славіка, Прага, 1517 год». Зацікаўленыя, мы знялі гэтую кнігу з паліцы і ўключылі ў экспазіцыю».

Пасля выставы кніга магла б трапіць назад, на сваю паліцу, каб на яе не звярнуў увагу тэолаг з Гёрліца Петар Лоберс. Ён чытае па-царкоўнаславянску, здолеў расчытаць і старабеларускую мову ды заявіць пра асаблівую каштоўнасць выдання. Для даследавання кнігі запрасілі славіста і перакладчыка класічнай беларускай літаратуры на нямецкую мову Норберта Рандау. Ён і засведчыў унікальнасць знаходкі.

Гэты канвалют стаў 40-м канвалютам з кнігамі Скарыны, вядомым у свеце. І першым падобным выданнем на тэрыторыі Германіі.

### Прага—Вроцлаў—Гёрліц

За стагоддзі старая кніга прападравала праз палову Еўропы, прайшла праз многія рукі. Яе гісторыя ўтрымлівае некалькі дэтэктыўных загадак. Пасля даследавання стала вядома, што канвалют у 1527 належаў тэолагу і дзеячу Рэфармацыі ў Сілезіі Іагану Хесу, які атрымаў яго ў падарунак ад нейкага Андрэаса Бланка. Пра апошняга нічога не вядома. А любыя звесткі пра гэтага чалавека маглі б даць адказ на пытанне, якім чынам Біблія з Прагі трапіла ў Брэслаў (Вроцлаў). Няма звестак і пра тое, дзе кніга знаходзілася пасля смерці Хеса ў 1547. У 1615 яна з'яўляецца ў Гёрліцы. Пра гэта сведчыць адпаведны запіс, які зрабіў юрыст і калекцыянер каштоўных выданняў Даніэль Штаўдэ, калі перадаваў сваю бібліятэку ў падарунак Гёрліцкай гімназіі. Магчыма, менавіта Штаўдэ і аб'яднаў асобныя кнігі Біблії пад агульным пераплётам.

### Тытульны ліст і партрэт

Загадчыца навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Галіна Кірэева адзначыла, што да гэтай нямецкай знаходкі беларуская калекцыя з дзесяці Скарынавых кніг была пятай у свеце. Цяпер гэтае месца заняла Германія — у знойдзеным канвалюце іх 11. Кніг беларускага першадрукара знаходзяцца ў Вялікабрытаніі, Даніі, Літве, Польшчы, Славеніі, Расіі, Украіне.

Шэсць кніг з нямецкага канвалюта не маюць адпаведнікаў у фондах Нацыянальнай бібліятэкі. Напрыклад, кніга «Быццё», чатыры кнігі «Царстваў». Ёсць у гёрліцкай кнізе і ўнікальны агульны тытульны ліст да ўсёй Біблії, які, па словах Кірэевай, быў надрукаваны толькі раз. Таксама ў нямецкіх кнігах захаваўся партрэт першадрукара.

### Гутэнберг і Лютэр у адной асобе

«Сёння заканадаўства большасці краін свету не дазваляе вярнуць тое, што было вывезена альбо страчана намі. І застаецца такі спосаб, як набываць гісторыка-культурныя каштоўнасці. Мы можам, зразумела, арганізоўваць выставы, дэпазіты. Мы можам рабіць іх копіі», — сказаў міністр культуры Беларусі Павел Латушка. І дадаў, што на сёння ўсе 11 кніг з Гёрліца аблічбаваныя.

Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Раман Матульскі дадаў, што цяпер ствараецца электронная бібліятэка Скарыны, у якой будуць копіі яго выданняў, а таксама выданні той эпохі. Рыхтуецца і факсімільнае перавыданне ўсіх кніг Скарыны (факсімільная Біблія выдавалася ў пачатку 1990-х).

«Расказваючы сёння немцам — наведнікам нашай бібліятэкі, — пра Скарыну і яго здзяйсненні, я заўсёды кажу, што для беларускай культуры ён адыграў гістарычна тую ж ролю, што Гутэнберг і Лютэр для Германіі. Скарына аб'яднаў першадрукара і перакладчыка Біблії ў адной асобе», — заўважае Маціас Венцэль.

**Сяргей Макарэвіч**

**Кнігі Скарыны за сотні тысяч**

Дзяржава гатовая выкупіць «Малую падарожную кніжку». Пра гэта яшчэ ў жніўні паведаміў экс-міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка. Па яго словах, кніга знаходзіцца ў ідэальным стане. Па паўнаце гэта другое выданне — у ім 18 частак. Краўчанка адзначыў, што цана экзэмпляра можа вагацца ад 300 да 500 тысяч даляраў. І дзяржава, як яму паведамілі, гатовая выдаткаваць такія грошы. Валодае ж гэтым асобнікам беларускі мільянер, імя якога не называецца.

**Дзе і калі**

Выстава «Францыск Скарына: падарожжа на радзіму» будзе праходзіць у Музеі кнігі Нацыянальнай бібліятэкі да 13 кастрычніка. Штодня можна наведаць выставу. Даведкі па т.: (17) 293-27-22.

Ад 15 да 24 кастрычніка выстава будзе паказаная ў Нясвіжскім гісторыка-культурным музеі-запаведніку.

**Канвалют**

(лац. convolutus — скручаны, сплецены) — асобныя друкаваныя ці рукапісныя кнігі, пераплеценыя разам.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Каб паказаць у Мінску гэты асобнік Скарынавай Біблії, перамовы вяліся некалькі гадоў.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Міністр культуры Павел Латушка быў першым наведвальнікам, для якога правялі экскурсію па выставе.**



**Дырэктар Верхнялужыцкай навуковай бібліятэкі Маціас Венцэль.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Матэрыял створаны пры дапамозе Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія ў Мінску, УНП 101166185




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**БАТЭ атрымаў гістарычную перамогу над грандам еўрапейскага футбола. Барысаўцы выйгралі ў самой мюнхенскай «Баварыі». Немцы з пачатку сезона мелі дзевяць перамог у дзевяці гульнях. Каб атрымалі дзясятую, то быў бы новы клубны рэкорд. Нашы перамаглі па справе — 3:1. Галы за БАТЭ забілі Паўлаў, Радзівонаў і Брэсан. 26 кастрычніка ў Мінску БАТЭ гуляе з «Валенсіяй».**




**Мастак Алесь Пушкін выйшаў на волю пасля 10-сутачнага зняволення ў Смаргоні, увесь час ён трымаў галадоўку і маляваў. Пушкіна асудзілі за перформанс да гадавіны нараджэння лідара антысавецкага супраціву на Смаргоншчыне Расціслава Лапіцкага.**



**У Бухарэсце на былой плошчы Леніна перад Домам друку наноў адкрылі помнік правадыру сусветнага пралетарыяту. Гэта копія помніка, што стаіць перад МДУ ў Маскве. Цяпер румынскі помнік завецца «Гідра». Толькі замест галоваў там ружы.**




**Пражскі аэрапорт афіцыйна названы ў гонар Вацлава Гавэла, былога прэзідэнта Чэхіі, што памёр летась.**

## Анекдоты

***

У дзяцінстве я быў сапраўдным вундэркіндам: у 3 гады ў мяне быў такі ж узровень інтэлекту, як і цяпер.

***

Пазнаёмлюся з разумным мужчынам. Т.: $0*(91^2+\sqrt{87})*(24^2-\sqrt{2272})*(3^2+\sqrt{5995})$.

***

Галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе: «Мы паспрабуем гуляць у футбол».

***

Калі вы чакаеце прынца, то не здзіўляйцеся потым, што ён ляжыць на канапе і лайдачыць, а не апантана працуе, як рабочы.

***

— Пятро, чаму ты зусім за сабою не сочыш?
— А я сябе ні ў чым не падазраю.

***

А ці ведаеце вы, што што 90% людзей у гэтым тэксце не заўважаць паўтору слова «што» ў пачатку.

***

Маршрутка — адно з нешматлікіх месцаў у Беларусі, дзе фінансавая плынь можа прайсці праз трох пасяраднікаў і ніхто не возьме адкат.

***

— Дарагі, ты памятаеш тую сцэну з «Асноўнага інстынкту», дзе Шэран Стоўн нагу на нагу перакідае?
— Вядома!
— Значыць, гэта ты памятаеш! А тое, што ў жонкі дзень нараджэння, гэта ты забыўся!

**Наступны нумар «НН» выйдзе ў сераду 24 кастрычніка. Не ўпусціце апошнюю магчымасць сёлета схадзіць у грыбы.**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Калі ўсе вочы звернены на Балканы, калі ўсе чакаюць, што вось-вось пачнецца еўрапейская вайна**, у каторую першым чынам можа быць умешана і Расея, — на Далёкім Усходзе, на граніцы кітайскай, збіраюцца цяжкія хмары новай вайны. Тое, што робіцца цяпер у Кітаі, можа прынесці гэткую буру, што вайна паміж балканскімі гасударствамі змеркне.

**«НН». №40. 1912.**

**Кніга вершаў Андрэя Хадановіча «Лісты з-пад коўдры» пабачыла свет не па-беларуску, а па-ўкраінску.** Для яе прасоўвання на рынак выдавецтва «Факт» запрасіла паэта выступіць з прэзентацыямі ў Львове, Івана-Франкоўску, Кіеве, Харкаве.

**«НН». №38. 2002..**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8070. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 09.10.2012.
Замова №4427.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
ISSN 1819-1614

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12